Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне

# Студэнцкі Кліч






МЮНХЭН
1947

//////////////////////////////////////////////////////////////////

# Студэнцкі . КЛІЧ

//////////////////////////////////////////////////////////////////

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ - МЮНХЭН
Часапіс студэнцкае моладзі. Выходзіць на правох рукапісу.

Год III. Нр. 1/15/ Жнівень 1949 Цана 3 НМ.



## НАШАЕ СТАНОВІШЧА

Непаразуменьні, насьпеўшыя паміж ранейшым Беларускім Акруговым Камітэтам на Амэрыканскую Зону з сялібай у Остэргофэне і апазыцыйнай да яго групай з сялібай у Міхэльсдорфе, прывялі да скліканьня двух зьездаў: першага — 27 чэрвеня г. г. у беларускім лягеры ў Міхэльсдорфе, другога — 6 ліпеня ў беларускім лягеры ў Остэргофэне. На першым была выбрана г. зв. Міжлягерная Рада, другі быў справаздаўча-перавыбарчым зьездам, скліканым Акруговым Камітэтам, на якім адбыліся перавыбары ранейшага Акруговага Камітэту.

Бесьпярэчна, ідэі, імкненьні і погляды, а значыць і разьбежнасьці ў гэтых імкненьнях, поглядах, якія існуюць у нашым старэйшым грамадзянстве, адбіваюцца і ў нашым студэнцкім асяродзьдзі. Ды іначай і быць ня можа. Калі-б так ня было — гэта азначала-б, у горшым выпадку абыякавасьць нашага студэнцтва да агульна-нацыянальных нуртуючых у нашым грамадзтве праблемаў, у лепшым выпадку, у выпадку бяскрытычнага аднагалоснага ўспрыйманьня тых ці іншых сугэраваных нам звонку думак, азначала-б нязздольнасьць самастойна думаць альбо іначай-жа павярхоўнае коўзаньне яго над справамі вымагаючымі развагі і падыходу з пачуцьцём адказнасьці. Трэба тут разрозьніваць, аднак, разьбежнасьць думак, выкліканую сумленным індывідуальным падыходам розных людзей да таго самага пытаньня, калі гэтая індывідуальнасьць падыходу абумоўлівае большую ці меншую разьбежнасьць, ад апазыцыйнага становішча падыктаванага тымі ці іншымі асабістымі, або груповымі карысьцямі. У першым выпадку, пры наяўнасьці сумленнага падыходу да нашых нацыянальных праблемаў, мы маем справу з агульнапрынятым у дэмакратычным сьвеце шуканьнем найправільнейшага шляху, у другім выпадку са сьвядомым імкненьнем зьвесьці грамадзкую думку на бездарожжы.

Агульныя сходы сяброў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне скліканыя Урадам Б.С.З. 5-га і 12-га ліпеня г. г. у справе адносінаў да новапаўсталай Міжлягернай Рады, а таксама ў справе удзелу ў зьезьдзе ў Остэргофэне і адносінаў да выбранага там Акруговага Камітэту яшчэ раз пацьвердзілі, што, ня гледзячы на пэўную разнаякасьць поглядаў, выказаных часам з уласьцівым моладасьці імпэтам і якраз таму, што гэтая разнаякасьць думак вынікала з індывідуальнага сумленнага падыходу, беларускае студэнцтва Мюнхэну аб'яднанае ў Беларускім Студэнцкім Згуртаваньні ідзе па правільнаму нацыянальнаму шляху і умее яго карэктаваць, калі зьяўляецца патрэба гэтага.

Сябры Б.С.З. па абодвух разгледжаных пытаньнях занялі становішча, якое адлюстроўваюць прынятыя сходам 5.7. г. г. рэзалюцыі /глядзі ніжэй/.

У дыскусыі над абедзьвюма рэзалюцыямі студэнцтва імкнулася займаць аб'ектыўнае, падыктаванае толькі дабром нацыянальнае справы, становішча. Існуе пэўная герархія заслугаў і недахопаў. Пры наяўнасьці шмат якіх недахопаў стары Акруговы Камітэт меў тую найвялікшую заслугу

што стаў ён на моцным бескампрамісовым нацыянальным грунце, і ў склад яго увайходзілі людзі раней ведамыя як дзеячы на беларускай нацыянальнай ніве. Гэтай заслугі ня маюць сябры новаствораняга Ураду Міжлягернай Рады, якія ў сваёй большасьці зьяўляюцца людзьмі новымі, выпадковымі, выкарыстаўшымі тактычныя недахопы старога Акруговага Камітэту і індывідуальныя недахопы некаторых яго сябраў. Студэнцтва уважала, што ў такі цяжкі мамэнт, які мы перажываем тут на чужыне сяньня, за тыдзень да агульнага зьезду скліканага Акруговым Камітэтам у Остэргофэне, апазыцыя ня мела права без паразуменьня з Акруговым Камітэтам склікаць сход, і, апіраючы сваю крытыку выключна на выцягваньні другарадных недахопаў, прыводзіць да стварэньня новай арганізацыі з кампэтэнцыямі аднолькавымі з існуючай, уводзячы гэтым хаос у нашым арганізацыйным жыцьці ў Нямеччыне.

Кіруючыся лёзунгам " не разьбіваць а направляць" сябры Б.С.З. выказаліся ў сваёй рэзалюцыі супроць прызнаньня створанай на зьезьдзе ў Міхэльсдорфе Міжлягернай Рады. З другога боку студэнцтва памятала аб гэтых другарадных недахопах старога Акруговага Камітэту, да якіх трэба залічыць: няўлічваньне настрояў беларускага агулу на чужыне, фарсаваньне несваечасовых і ня самых галоўных сяньня праблемаў, і, высылаючы свайго дэлегата на зьезд у Остэргофэне, выказала сваё крытычнае становішча адносна працы ранейшага Акруговага Камітэту ў адпаведнай рэзалюцыі /глядзі ніжэй/. А што становішча мюнхэнскага Б.С.З. было ў гэтым выпадку таксама правільным, сьведчыць той факт, што аналягічныя закіды былі высунуты старому Акруговаму Камітэту з боку грамадзтва на зьезьдзе ў Остэргофэне. Склад прыбыўшых на зьезд выявіў таксама факт, што высылаючы дэлегатаў беларускія лягеры і групы не прытрымоўваліся сьцісла выбарчай ардынацыі, а выбралі сваіх прадстаўнікоў на агульнапрынятых дэмакратычных асновах.

На зьезьдзе быў выбраны новы Беларускі Акруговы Камітэт на Амэрыканскую Зону. Мы верым, што ён улічыць практыку ранейшага камітэту і ўнікаючы памылак, якія былі раней папоўнены, эможа прынесьці карысьць нашаму грамадзянству на эміграцыі.

У кожным выпадку, ува усіх здаровых нацыянальных пачынаньнях новы Камітэт можа лічыць на падтрымку беларускага студэнцтва як і усяго нацыянальна-сьведамага , стаячага панад дробязямі штодзённых сварак, беларускага грамадзянства.

На агульным сходзе сябраў Б.С.З. у Мюнхэне была таксама разглежана справа назову студэнцкага часапісу "Крывіцкі Сьветач".

Уважаючы ўводжаньне тэрміну "Крывія", "крывіч" несваечасовым і неадпаведным на эміграцыі ў варунках адрыву ад бацькаўшчыны і народу, яшчэ ў лістападзе мінулага году на агульным сходзе сябры Б.С.З. вырашылі ня уводзіць гэтага слова нават у дужках у назоў нашае арганізацыі. На тым-жа сходзе было пастаноўлена, каб не рабіць частых зьменаў, пакінуць назоў часапісу "Крывіцкі Сьветач", не відучы ў ім асаблівай прапаганды за уводжаньнем сяньня ў жыцьцё гэтага слова.

З огляду аднак на тое, што ў апошнім часе са слова "крывіч" умелымі галовамі /не бяз віны і самых прапагатараў яго, якія кіраваліся добрымі тэндэнцыямі/ зроблена самая галоўная зброя для змаганьня ня толькі з тымі, хто пашыраў яго, але і з усім, што ёсьць сяньня тут актыўна-беларускім, як гэта адчуў цяперашні Урад Б.С.З. у форме абразьлівых лістоў, на якія звычайна не адказваецца, агульны сход сябраў Б.С.З. у Мюнхэне дня 12.7. г. г. пастанавіў зьмяніць дасюлешні назоў часапісу, што і праводзіцца ў жыцьцё пачынаючы з гэтага нумару. Адначасна з гэтага нумару часапіс наш пачынае выходзіць кірыліцай. Спадзяёмся, што гэта будзе спрыяць распаўсюджаньню часапісу і сярод беларусаў, якія больш прывычаены да гэтага шрыфту.

Нашай мэтай зьяўляецца утрымаць цесную сувязь з шырокімі коламі беларускага нацыянальна сьведамага грамадзянства на эміграцыі і, зьнішчыўшы ўсякія штучныя бар'еры, якія імкнуцца між намі стварыць "салі-

дарысты" усялякіх гатункаў, прайсьці разам з гэтым грамадзянствам цярністы шлях выгнаньня дзелячы пароўну долю і нядолю чужыны.
А за бар'ерамі няхай лепш застануцца яны адны ...

М.Падгорны

---ооо---



## Р Э З А Л Ю Ц Ы І

вынесеныя Агульным Сходам Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне скліканым дня 5-га ліпеня 1947 г. у Шляйсгайме.

I. Мы сябры Б.С.З. у Мюнхэне сабраныя на агульным сходзе ў Шляйсгайме дня 5.7.1947 пратэстуем супроць стварэньня г. зв. Беларускай Міжлягернай Рады, як фактару разьбіцьця і паглыбленьня хаосу ў беларускім жыцьці на эміграцыі. Як патрыятычна сьведамая частка грамадзкасьці, мы ня можам глядзець абыякава на спробу разьбіцьця нашае нешматлікае, і гэтым стварэньня нагоды для чужацкае інгэрэнцыі ў нашыя справы. сям'і
І таму мы ўважаем за свой абавязак выправіць памылку Старшыні Б.С.З. Мюнхэн, што узяў удзел у зьезьдзе, на якім заснавалася Міжлягерная Рада, і выказваем гэтым нашае цалкам нэгатыўнае да яе становішча.

II. Б.С.З. у Мюнхэне крытычна адносіцца да дасюлешняй працы Беларускага Камітэту на Амэрыканскую Зону уважаючы, што праца гэтая мела шмат недахопаў, якія прывялі да крызысу камітэту.
Выбарчую ардынацыю, на падставе якой скліканы гэты зьезд, мюнхэнскае студэнцтва уважае недэмакратычнай /груба парушаны прынцып прапарцыянальнасьці і роўнапраўнасьці/, а таму негварантуючай таго, што нававыбраны камітэт будзе сапраўды адлюстроўваць думкі і настроі беларускага агулу.
Выходзячы з гэтага Агульны Сход Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне даручае свайму дэлегату:
1. Дамагацца адкласьці перавыбары Камітэту на 6 тыдняў, на працягу якіх дасюлешні Камітэт павінен апрацаваць сапраўды дэмакратычную ардынацыю, даючую магчымасьць усім групам беларускага грамадзянства ўлучаючы сюды і апазыцыйныя, прыняць удзел у зьезьдзе і выбарах новага Камітэту.
2. У выпадку, калі-б гэтая прапанова была адкінута і зьезд прыступіў да выбараў новага Камітэту, дамагацца абмежаваньня часу кадэнцыі гэтага Камітэту на 2 месяцы, на працягу якіх павінна быць апрацавана новая ардынацыя і праведзены выбары сталага Камітэту на тых самых што ў папярэднім пункце падставах.

Мюнхэн, дня 5.7.1947 / Подпісы /

---ооо---

Алесь Салавей

## РАМАНС

Толькі там,
Дзе айчыны бальзам,
Адзінота душу не кране
Толькі там.
Аб сваёй старане
Я нікому ўспамінаў, о не,
Не аддам.

Толькі тут
Непатолі прысуд
І маркота няволіць мяне,
Толькі тут.
У чужой старане
Не забуду цябе я, о не,
Родны кут.

Рыга, 29.ХІ.1943 г.

---ооо---

## БЕЛАРУСЫ!

Ужо трэйці год жывём мы ў лягерох Д. П. Тады, калі амаль усе выселенцы жывуць у сваіх собскіх нацыянальных асяродках, мы нажаль расьцярушаны сярод чужых.

Толькі малая частка з нас здолела зарганізавацца ў сваіх беларускіх лягерох, толькі малая частка з нас мае магчымасьць карыстаць з той свабоды нацыянальнага жыцьця, якую можа нам даць у сяньняшніх умовах беларускі лягер.

Беларусы! Сяньня мы маем поўныя магчымасьці выдзяліцца ў беларускія нацыянальныя лягеры. Улады ня ставяць нам у гэтым ужо ніякіх перашкодаў. Усё залежыць ад нас самых.

Ад Вас вымагаецца мінімум: арганізаваць у тых асяродках, у якіх Вы жывяце, беларускія групы і выяўляць сваю волю да вылучэньня ў нацыянальныя лягеры.

Беларусы! Памятайце аб Вашай Бацькаўшчыне-Беларусі, якая змагаецца за сваё існаваньне; памагайце Ей у гэтай барацьбе тут на чужыне!

Мэтазгодным ёсьць трымаць у гэтых справах цесную сувязь з Беларускім Камітэтам на Амэрыканскую Зону ў Остэргофэне.

Урад Б.С.З.
Мюнхэн

---ооо---

## СПРАВАЗДАЧА З ДЗЕЙНАСЬЦІ ЦЭНТРАЛІ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ НА ЧУЖЫНЕ.

### Беларускі Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд пры Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне.

Ужо тры месяцы мінула ад таго часу, калі ЦБСА зьвярнулася з заклікам да беларускага грамадзянства на эміграцыі аб матэрыяльнай дапамозе беларускай студэнцкай моладзі. Надзеі ЦБСА споўніліся. Беларускае грамадзянства не асталося глухім на кліч сваіх дзяцей і ў бальшыні выпадкаў споўніла свой абавязак беларуса і бацькі, складаючы ахвяру на Беларускі Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд.

Урад ЦБСА ад імені беларускага студэнцтва складае усім тым, хто сваей ахвярай спрычыніўся да заснаваньня Беларускага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду, шчырую падзяку. Мы хочам запэўніць Вас, браты беларусы, што уложаны Вамі цяжка здабыты грош на беларускае студэнцтва ня будзе змарнованы і кожны беларускі студэнт зьверне яго з вялікім працэнтам у адданай працы для свайго народу. Беларускае студэнцтва апраўдае пакладаныя у ім надзеі і годна споўніць зложаны на яго абавязак перад сваім народам і Бацькаўшчынай.

Для нас студэнтаў кожны беларус зьяўляецца братам: і той, хто сёньня ясна бачыць наш супольны шлях, вядучы да найсьвяцейшага нашага ідэалу - Незалежнай Беларусі і цьвёрда непахісна імкнецца да яго зьдзейсьненьня, і той, хто яшчэ блукае ў цемры шукаючы правідловага шляху, хто яшчэ ня зусім цьвёрда і сьмела прызнаецца да беларускага свайго імені. І вось, адным з нашых грамадзкіх заданьняў на сёньня і ёсьць праца сярод гэтых людзей, каб дапамагчы ім стаць на праўдзівую дарогу і гэтым даць ім магчымасьць далучыцца да вялікае беларускае сям"і.

Беларускае студэнцтва удзячна Вам, Браты, ня столькі за матэрыяльную падтрымку, але больш за тую маральную дапамогу, якую Вы акавалі яму. Кожны беларускі студэнт адчуў, што ён не адзін, што за ім стаіць яго беларускі народ. Нашая студэнцкая моладзь прыступіла цяпер з новай энэргіяй і яшчэ з большай ахвотай да працы з тым моцным пераканаьнем, што і ў будучыні аб ей будзе памятаць ейны народ.

Калі ЦБСА заснавала Беларускі Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд, дык не кіравалася выключна думкаю нейкай часовай установы, якая выхапіўшы пару тысяч марак, замерла-бы ізноў, а мела на мэце, каб заснованы БССФ існаваў так доўга, як доўга будуць змушаны беларусы жыць і здабываць асьвету за рубяжамі свае Бацькаўшчыны. Кожны студэнт, які атрымае сёньня дапамогу ад БССФ, забавязваецца зьвярнуць яе ў акрэсьленым часе пасьля заканчэньня вучобы. Зьвернутыя стыпэндыі побач з ахвярамі беларускага грамадзянства лягуць у аснову БССФ і будуць зарукаю яго даўгавечнасьці.

Беларусы! Сёньня зблізаецца час, калі ў Нямеччыне будуць паступова зьліквідованы лягеры і Вы разьедзецеся ў розныя краіны Эўропы, ці Амэрыкі. Асноўная, аднак, частка студ"юючай сёньня ў Нямеччыне моладзі, кіруючыся інфармацыямі аб магчымасьцях здабываньня асьветы ў іншых краінах, будзе імкнуцца канчаць распачатую навуку ў Нямеччыне, каб пасьля заканчэньня далучыцца да сваёй грамады. Невялікая частка можа знойдзе таксама магчымасьць вучобы і ў іншай дзяржаве, як гэта мае мейсца ў Францыі, Італіі, Бэльгіі і Англіі, дзе цяпер невялічкія групкі беларускіх студэнтаў таксама, і ў ня менш цяжкіх матарыяльных абставінах здабываюць асьвету. Але, як у адным, так і ў другім выпадку ў далейшым прадаўжаньне вучобы без дапамогі свайго грамадзянства будзе практычна немагчымым. У сувязі з гэтым урад ЦБСА зварочваецца да Вас, Беларусы, з заклікамне пакідаць пачатае справы, а прадаўжаць складаць ахвяры на БССФ бяз огляду на тое, ці Вы застаняцеся ў Нямеччыне, ці выедзеце ў

якуюсь іншую краіну. Сабраныя Вамі ахвяры будуць адпаведна распадзелены паміж патрабуючымі беларускімі студэнтамі, бяз огляду на тое, у якой дзяржаве яны не знаходзіліся-б. Няхай гэты фонд узрастае. Мы ня першыя і не апошнія беларусы, якіх лёс загнаў здабываць асьвету ў чужыя краіны. Хто ведае, ці ня прыйдзецца яшчэ тым, хто ходзіць сёньня ў пачатковую школу прадаўжаць вучобу на чужыне. Не заўсёды змогуць бацькі ўтрымаць дзіця на вышэйшай школе. Ізноў наўстае пытаньне, скуль узяць сродкі на навуку? Адказ будзе просты - з Беларускага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду, калі мы ня будзем кароткаўзрочнымі і не закінем распачатае справы. У сувязі з тым, што не заўсёды будзе магчымасьць перасланьня сабраных ахвяраў на БССФ у цэнтралю, ЦБСА закладае аддзелы ў наступных дзяржавах:

Францыя: пры Аб"еднаньні Беларускіх Работнікаў у Францыі

Адрыс: Union des Travaileurs Bielorusiens, Sektion a la C.F.T.C. II bis, Rue Roguepine. Paris (8-e)

Англія: пры Аб"еднаньні Беларусаў у Вялікай Брытаніі

Адрыс: Z.B.V.B, 49 Rinden gdu London W.2

Бэльгія: пры Union Bielorusiens en Belgue. Comite Central pour la Valonie. Charleroi.

Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі: пры sekretarjacie
Biel. Arhanizacyjaŭ u America.
Adras--White-Russian American National Counsil
2623 West Augusta Boulevard, Chicago 22
Illinois. USA.

Пасьля прыезду ў вышэйўспомненыя краіны навязвайце неадкладна кантакт з паданымі арганізацыямі і, не чакаючы асобнага заклiку ад іх, складайце ахвяры на БССФ і перасылайце на вышэйпаданыя адрасы. Калі-ж апынецеся ў краіне, дзе няма яшчэ ніякай беларускай арганізацыі, дык закладайце такую, а пры ёй аддзел БССФ.

Дзеля лепшага зар"ентаваньня беларускага грамадзянства аб стане БССФ, падаём ніжэй сьпіс тых беларускіх лягероў, асяродкаў і прыватных асобаў, якія ўжо прыслалі сабраныя ахвяры. /Сьпіс падаём у хранaлягічным парадку атрыманьня грошай/:

З лекарскага зьезду ў Марбургу дня 30.3.47.............490.00РМ.
Др.В........................... -"- .............490.00--
Ашафэнбург..................... -"- .............205.00--
Др.Гр.......................... 24.4.47.............20.00--
Бібэрах / Рісс.................25.4.47 .............310.00--
Заўльгаў....................... 3.5.47 .............490.00--
Сьвятар Лапіцкі ад прав. царквы
у Міхэльсдорфе..... -"- .............300.00--
Др.М........................... -"- .............100.00--
Сьвятар Г...................... 6.5.47 ............. 20.00--
Вогэнштраўсс...................12.5.47 .............427.40--
--""-- ........................10.6.47 ............. 46.30--

Біберах / Рісс.......................... .15.5.47.......125.00 РМ.
Ватэнштэт...............................19.5.47......1700.00 --
Мюнхэн-Фэльдмохінг / Шлийзгайм/..........26.5.47...... 400.00---
Міхэльсдорф............................. 1.6.47......1500.00 --
Беларуская Гімназія ў Міхэльсдорфе........ --""--....... 390.00 --
-"- -"- -"- ........17.6.47...... 380.00 --
Аллендорф............................... 3.6.47...... 520.00 --
Я.Пр. Епіскап Гэоргій /Бамбэрг/......... 4.6.47...... 475.00 --
Остэргофэн..............................4 .6.47...... 773.30 --
Манлеус................................. 4.6.47...... 250.00 --
Цірсгайм................................10.6.47...... 485.00 --
Я.Пр.Епіскап Анастасіос ад ..............16.6.47......
Сьвятар Макавельскі з прав. прыходу
ў Лянэ............................126.00 --
Сьвят. Ф.Гарэлік з прав прыход ў Колёрадо............100.00 --
Сьвят. А.Сурвіла з прав. прыходу ў Ватэнштэт..........180.00 --
Прат.Смірноў з прав. прыходу ў Гановэры...............147.00 --
За продаж кніжак па Закону Божаму, Стары Запавет......210.00 --
Гэрэнбэрг............................. 18.6.47.....519.10 --

Разам......11179.10 --

Пры гэтым ветліва просім кіраўнікоў тых асяродкаў,каторыя выслалі ужо грошы на БССФ,але ўвышэйпаданым сьпісе не пададзены,паведаміць нас аб высланай суме,даце наданьня і адрасе на які выслана.

Як з вышэйшага відаць,амаль палавіна з тых беларускіх асяродкаў,да якіх мы звярнуліся з заклікам,прыхільна і з поўным зразуменьнем аднесьліся да справы Беларускага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду. Урад ЦБСА верыць,што яны і надалей з няменшым зразуменьнем і ахвотай аднясуцца да справы БССФ і іхні прыклад не астанецца бяз эха і сярод тых беларускіх лягероў і групаў,якія яшчэ не распачалі у сябе гэтай акцыі.

Амаль палова сабраных фондаў ужо распрадзелена паміж беларускімі студэнтамі ў форме стыпэндыяў,але яшчэ далёка не заспакоіла фактычных патрэбаў нашага студэнцтва. Дзеля-ж бліжэйшага зазнаямленьня нашага грамадзянства з патрэбамі БССФ падаём наступны разьлік: каб аплаціць кошты навукі толькі палове беларускіх студэнтаў,якія ўсучасны момант студ"ююць на вышэйшых навучальных установах толькі у Нямеччыне і даць ім мінімальную стыпэндыю ў вышыні 50 РМ у месяц/студэнты іншых нацыянальнасьцяў атрымоўваюць акрамя аплаты за навуку ў сярэднім 100 да 150 РМ у месяц/ БССФ патрабуе 45000РМ у год.Трэба,аднак, з тым лічыцца,што колькасьць студэнтаў патрабуючых матар'яльнай дапамогі з часам будзе ўзрастаць і,у сувязі з гэтым, урад ЦБСА горача заклікае беларускае грамадзянства ў далейшым прадаўжаць распачатую справу.Няхай ня будзе ніводнага беларуса,які не зложыў-бы мінімальнай ахвяры на Беларускі Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд. Пачатак добры.Мы верым,што і надалей Беларускае грамадзянства будзе памятаць аб Беларускім студэнце.

УРАД

ЦЭНТРАЛІ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ НА ЧУЖЫНЕ.

# Княгіня Магдалена-Матыльда Радзівіл

/Меншчына, 1917-18г.г. Маёнтак Кухцічы, ігуменскага павету./

Успаміны.

Пазнаёміў мне з княгіняй Радзівілл яе прыяцель Скірмунт з Палесься у 1917 г. у Менску.

Па прыезьдзе маім у Менск-Беларускі, у 1917 г. на Усебеларускі Кангрэс, я ужо болей ня выяжджаў у Пецярбург, бо туды вярнуцца я ня мог, дзеля таго, што там майго сябру Часлава Радзевіча бальшавікі арыштавалі пасадзіўшы у Смольны, а я уцёк з кватэры, па 6-ай Раждзэсьцьвенскай вуліцы, хоць там і быў пастаўлены пільнаваць мяне матрос, посьле адвозу у Смольны Ч.Радзевіча. Жыў я на адным памешканьні з Ч.Радзевічам і разам з ім працаваў у міністэрстве харчаваньня /Анічкін дварэц за часоў Керэнскага./

Пазнаёміўся я у Менску са Скірмунтам, а ён мяне пазнаёміў з княгіняй Радзівілл, якая жыла ў Менску пры Захараўскай вуліцы у часе нямецкай акупацыі 17-1918 г.г. Прывёў мяне да яе Скірмунт у 3-4 гадзіне ўдзень, яна ахвотна мяне прыняла, прасіла застацца у яе пасьля адыходу Скірмунта, які хутка выйшаў, пачала мяне частаваць гарбатай і бабкай. Прасядзеў я ў яе так доўга, пакуль яна прасіла заставацца, аж да 1-ай гадзіны ўначы.

Пасьля некалькі маіх візытаў у княгіні Радзівілл, яна мне запрапанавала заняць у яе пасаду ў маёнтку Кухцічах у адміністрацыі. Скірмунт радзіў мне гэтую працу прыняць, лічачы, што яна можа прынесьці вялікую карысьць для беларусаў, бо княгіня - вялікая багачка і адносіцца да нас надта спагадліва, а нават неаднойчы шчодра дапамагала беларусам грашыма. Пры гэтым ён папярэдзіў мяне, што з ёю трэба трымацца карэктна. Парадзіўся я яшчэ са сваімі сябрамі аб пасадзе ў княгіні і сваім сталаваньні ў яе. Сьмяяліся ўсе яны, калі я ім расказваў аб сваёй гасьціне ў княгіні, як я быў прыманы ў-яе першыя дні, як яна мяне частавала кожны дзень курачатамі, індыкамі ды парасятамі. Дзівілася мусіць яна, што я паядаю такую колькасьць усяго і загадвала даваць мне ўсяго болей, каб я не заставаўся галодны.

Калі-ж вечарамі ізноў запрашала мяне прыйсьці, я абавязкова прыходзіў да яе на вячэру, частавала ізноў і пыталася, ці хопіць дома, /дзе я амаль нічога ня меў апрача яе стала/, я заўсёды казаў, што маю дастаткова яды, але, ня гледзячы на гэта, ня раз прысылала і дамоў, даручыўшы лёкаю даведацца, як я жыву. Лёкай быў страшэнна адданы княгіні і яе шанаваў як ён толькі гэта ўмеў, але дзяліўся са мною расказваючы аб яе жыцьці, яе жаданьнях.

Так прайшло з месяц часу, пакуль яна мяне прыняла на свайго "урадаўца" у маёнтак Кухцічы, пакуль дастаў я за яе пратэкцыяй дазвол ад ваеннай улады на пераезд у Кухцічы, бо страшэнна здоўжылася чакаць, пакуль нарэшце апынуся на працы, якой ніколі, ў маёнтках ня бываўшы, ня бачыў.

Атрымаўшы з княгініных рук дазвол на выезд, думаў, што сяду і паеду да яе на працу праз станцыю Негарэлае, аб якой некалькі разоў княгіня расказвала, але не так здарылася, як і яна хацела і я. Немцы з камэндантуры загадалі мне сабрацца з рэчамі і дастацца /як - гэта, вядома, іх ня цікавіла/ на станцыю ў Менску. Там мяне чакалі два канваіры, якія давезьлі мяне да Негарэлага, а адтуль да мястэчка Узда, ад Кухціч - 3км., да камэндантуры, і толькі адтуль камэндант, ізноў з жаўнерамі даставіў мяне ў маёнтак Кухцічы.

Спачатку галоўнае упраўленьне было ў маёнтку Кухцічы,а потым перанесена яно было у маёнтак Каменка.Кухцічы мелі шмат ворнай зямлі, было 135 пар рабочых коней,шмат быдла,сьвіней,была свая стальрня,рымарня,малачарня,пахтар-завод,які вырабляў сыры,гнулі палазы,абады,кузьня,шмат пчолаў,вялікі гарод-сад,каторы быў абнесены загародай.Казала княгіня,што упраўляючы зарабіў на абгародцы саду 20000 руб.і купіў сабе хвальварак.Была выкапана канава і рыбны стаў.Старапаўні аднапавярховы палац з яго фасадам і калёнамі перад пад"ездам лічыў ня менш, як 300 гадоў.Пасярэдзіне,як княгіня называла дварца,жыла яна сама, а з усходняга боку была канцылярыя і жыў я.У заходнім крыле палацу жыў загадчык маёнткаў.Да княгіні ішлося ад уваходу направа.Тут жыла яна,тут і прымала інтэрэсантаў,заўсёды седзячы над сваімі каронкамі. Насупраць параднага уваходу была сталовая,аграмадныя пакоі усюды застаўленыя шафамі з разнякай зброяй забітага князя.Гэтай зброі яна нікому не давала.Паркетныя падлогі блішчэлі разнакаляровымі ружамі, выробленымі з разнакаляровага дрэва.

Першыя дні пасьля прыезду былі днямі працы,амаль без адпачынку,бо мне камісар маёнтку,аграном палька,даў столькі работы,што я мусіў працаваць пачынаючы ад 5 гадз. раніцы да 10 увечары дзеля таго, што мусіў упарадкаваць усю заблытаную працу канцылярыі упраўленьня кухціцкіх маёнткаў.Княгіня недалюблівала гэтага агранома як палька і потым,калі мы бліжэй пазнаёміліся,часта гаварыла мне:"шкада,што ў нас - беларусаў няма сваіх аграномаў",хацела яго выгнаць,але ён быў добры чалавек і,як рэдка бывае,справядлівы.

Так працаваў я каля 3-х месяцаў да прыезду княгіні з Менску. Калі прыехала княгіня Радзівілл,яна выклікала загадчыка маёнткаў агранома Лалеша і сказала яму,што ўсе новыя загады ён можа праводзіць у жыцьцё толькі пасьля узгадненьня са мною.Дакладваць усе справы княгіні павінен быў я.Гэтае рэфэраваньне справаў перад княгіняй часта пераходзіла ў гутарку аб самых разнякіх справах.Пры гэтым закраналася беларуская справа,якая тады з кожным днём набірала сілы і актуальнасьці.

Княгіня мне часта расказвала аб тым,што яна выдала на беларускую справу розным асобам 60000 руб. называючы пры гэтым імёны:Іваноўскага,Ластоўскага,Алексюка,Уласава,братоў Луцкевічаў і др.Найбольш была незадаволена з Уласава,бо ён, прыехаўшы да княгіні і не заставшы дома,загадаў сам,каб яму далі есьці.Гэта асабліва моцна раззлавала княгіню,у якой справа такту і уменьня захоўвацца была на першым мейсцы.

Атрымаўшы вялікія паўнамоцтвы ў адміністраваньні маёнткамі і ведаючы прыхільнасьць княгіні да беларускай справы,я паставіў сабе заданьне увесьці беларускае справаводзтва ва ўпраўленьні усімі маёнткамі.Гэта было прадстаўлена мной княгіні і яна ахвотна згадзілася.Наогул,што тычылася беларускай справы,ці выдаткаў на гэта,яна гаварыла:"я грошай для сваіх беларусаў не шкадую,мы мусім зрабіць"і г.д. Парадзіўся я ў Менску з Аркадзем Смолічам /за яго і Лёсіка парадай я ўсё рабіў,што мог/,што да новых друкаў кнігаў пабеларуску,ён мне дапамог у перакладах,і за 2 месяцы усе канцылярыі ў 18 маёнтках перайшлі на беларускую мову.Былі ўведзены новыя кнігі з беларускімі загалоўкавымі тэкстамі,прыняты [illegible] шэраг новых працаўнікоў - беларусаў і,урэшце,было забаронена ў[illegible]ваньне іншага справаводзтва як беларускае ня толькі ў маёнтках,а нават у 8-мі лясьніцтвах,дзе быў загадчыкам надлясьнічы немец Шталь.Падпарадкавала княгіня і яго беларускаму справаводзтву.Страшэнна гэта было яму цяжка,але мне казаў, што для яго загад княгіні гэта сьвятасьць і ён выканае ўсё ў 100%. Усім,хто ня ўмеў пабеларуску,ён загадаў вучыцца даўшы на гэта 2-х месячны т[illegible]мін,а хто не падпарадкаваўся быў звольнены /так было у Зосінскім лясн[illegible]тве/.У канторах на сьценах былі расклеены надпісы: "Гаварыць іначай як пабеларуску ў часе ўрадаваньня забараняецца" і г.д.Гэта было ўведзена пачынаючы ад галоўнага ўпраўленьня кухціцкіх маёнткаў да малога хвальварку,а нават лясьніка,эканома і г.д.

— беларуская мова была ўведзена ўсюды. Нярэдка сама княгіня зьяўлялася ў нейкі мала вядомы хвальварак і кантралявала ці ўсё вядзецца пабеларуску. Яна вымагала, каб з ёю гаварылі пабеларуску. У хуткім часе я запрапанаваў ёй, каб у яе маёнтках увесьці ўсюды беларускія школы для дзяцей работнікаў. На гэта княгіня ахвотна згадзілася і такім чынам у больщых маёнтках: Кухцічах, Каменцы і Узьдзе былі адчынены беларускія школы. Настаўнікам і была вызначана ня толькі пэнсыя, а таксама ардынарыя і кватэра нароўні з усімі іншымі працаўнікамі. У Кухцічы прывёз я на становішча настаўніцы са Стоўбцаў, сястру Канстанцыі Буйло. Яна засталася там настаўніцай і пасьля адыходу немцаў. У мястэчку Узда была адчынена рамесьленая школа, на каторую княгіня асыгнавала 20.000 руб у год, дала дом і даручыла высьнічаму шталю дастаўляць усе, патрэбныя для майстэрняў, матарыялы. У доме потым 3 разы ставілі беларускія спэктаклі. 2 разы на спэктаклях была сама княгіня зьяўляючыся з вялікім шыкам у запрэжанай шасьцёркай коней павозцы. Купляла яна мейсцы сабе і мне па 100 руб., што тады было вялікімі грашыма. Ведля арганізаваньня тэатру я зьбіраў настаўнікаў і былых вайсковых з вёсак. З пасярод іх памятаю з вёскі Каменка - Дубовіна, з вёскі Пізок - Міхалку, якія нярэдка ў мяне былі ў Кухцічах і часта начавалі пасьля збораў. Артыстам маларам у нас быў мой сябра С.Валансэвіч, каторага я прывёз з Менску да сябе, і ён маляваў усё, што толькі было патрэбна як для школаў так і ведля сцэны. Мастак ён быў добры і шчыры працаўнік. Вучыўся ў Акадэміі Мастацтваў у Пецярбурзе. Знаў яго я з дзяцінных гадоў.

Княгіня Радзівілл ня гледзячы на свае 64 гады, чудася бадзёра і пры кожнай нагодзе зьменшвала сабе 10 год. Яна трымалася малажава, а да таго-ж жанчыны застаюцца заўсёды жанчынамі. Яна расказвала мне шмат аб сваім памёршым мужу, князю Радзівілу, камандзіру уланскага палка, каторага забілі на вайне немцы і цела якога яна прывезла да сябе ў Кухцічы і пахавала ў склепе маёнткавага касьцёла. Стаяў князь у мэталёвай труне забальзамаваны, абстаўлены вянкамі сярэбранымі, фарфаравымі і іншымі, сярод каторых, у нагах кідаўся ў вочы вянок з зелені з вялікай нацыянальнай беларускай істужкай, на каторай было напісана: " Пухам Табе Князь зямелька ў Тваёй Роднай Староны".

Князь Радзівілл быў яе другім мужам, першы быў нейкі граф. Родам Княгіня, была з Варшавы, як яна расказвала. Памойму была яна вельмі добрая асоба і ўсімі сіламі хацела дапамагчы беларусам, але яе мала хто разумеў і, часам, выкарыстоўвалі яе дабрату як цыганы, схапіўшы што далося і растраціўшы грошы не на тое на што яны былі ўзяты. Таму і недаверліва адносілася княгіня да тых, хто зьяўляўся да яе з грашовымі справамі. Часта ў такіх выпадках пасьля дакладу лёкаем прозьвішча прыбыўшага, яна казала: " а гэта злодзей, я не хачу яго бачыць" і т.д., хоць пасьля пачакаўшы прымала яго і нешта дала яму. Выправіўшы госьця княгіня казала:" я яму ня веру, ён ня варты, але няхай яму будзе за яго падарожжа." За гэта яе часам называлі неразумнай, але яна была разумнейшая за тых, хто яе называў так - бо яна іх навылет бачыла і толькі праз сваю дабрату сьвядома дазваляла сябе ашукваць.

Княгіня расказвала мне, што калі Біскуп Лазінскі ў 1918г. - прыехаў да яе з візытай, яна яму дала зьвязду з брыльянтаў, якая каштавала ў той час як яна выходзіла першы раз замуж 60.000 руб. У гэтым-жа годзе княгіня падаравала літоўцам сэрвіз сярэбраны на 120 кувэртаў. Колькі каштаваў гэты сэрвіз, яна не памятала. Беларусам княгіня казала: " Калі будзе свая дзяржава, беларусам ад мяне на памятку, я маю ў 20 разоў каштаўнейшыя падарункі, як гэта ўсё разам узятае і я ім гэта аддам." Гэтага свайго абяцаньня княгіня не магла выканаць, бо Беларусь захапілі пад сваю ўладу яе ворагі і да гэтага часу наш народ ня мае волі і незалежнасьці, хоць і рэклямуюць яго " прадстаўнікі" Беларусі Кісялёвы ды іншыя да яго падобныя.

Княгіня Радзівілл мела ў Меншчыне і Бабруйшчыне 75.000 дзесяцін зямлі і лесу, і лічылася адным з найбагацейшых абшарнікаў на Беларусі. Расказвала, што як выйшла замуж за князя Радзівілла, то ён ня меў

маёнткаў, а яна яму падаравала вялікі маёнтак Ходуй каля ст. Осіповічы, каторы апэнівала ў шмат тысяч рублёў. За 15 гадоў жыцьця з кн. Радзівіллам, ён пражыў ёй 15.000.000 руб. амаль пры ўсім гатовым. Улюбленым заняткам княгіні была язда вярхом. У стайні ў Кухціцах княгінь меў па 40 коней, пераважна рысакоў. Княгіня разам ні езьдзіла з князем, але ў малатых гадох расказывала, ахвотна езьдзіла вярхом, пры гэтым вельмі хутка. Седзячы ў крэсьле і расказваючы аб усім гэтым яна звычайна рабіла каронкі на падушачкі. Пры гэтым княгіня шмат курыла і часта гасіла папіросу аб падэшву свайго камаша, у чыёй-бы ні было прысутнасьці. Мела задацістага копеду, падобных на таксаў, лахматых, з вялікімі вачыма на лоб, сабачак, за каторымі прападала.

Часта расказвала княгіня пра алмазныя палі, нейдзе ў Аўстраліі, каторыя былі не прадпрыемствам і куды яна ўлажыла шмат міліёнаў рублёў, будучы спаўуласьніцай. Часта прысылала мне аўстралійскай зупы, каторую я проста казаў лякаю выліваць маёму знакамітаму, падарованаму мне княгіняй фокстэр'еру.

На балі ў княгіні, быў я некульку разоў. Аднойчы яна прымала гэнэрала немца Фалькенгайма, з цэлым штабам ахвіцэраў. Чэдзеў побач ле і я, з абдзёртымі локцямі, але новымі пагонамі, каторыя яна прычапіла мне. Казала, што яна ні любіць сваіх урадаўцаў элеганцка апранутымі, бо яны элегантуюцца за крадзеныя ў ле грошы. Праўда красьці ў ле я не патрабаваў, бо княгіня плаціла мне вельмі добра. Немцам яна гаварыла ў вочы, што яны вайну прайграюць. Забараніла ім паляваць у сваіх лясох. Княгіня забараніла немцам, даваць быдла па рэквізыцыі. Калі аднойчы прыехаў ад'ютант гэтага самага Фалькенгайма, які быў камандзірам 10-ай арміі прасіць дазволу на аблаву ў ле лясах, княгіня адмовіла і сказала, што калі немцы будуць паляваць, яна напіша скаргу іх кайзэру Вільгэльму, а нам даручыла паведамляць ле аб усіх паляваньнях немцаў у ле лясах. Сьмяяліся, што княгіня аб'явіла вайну нямецкай 10-ай арміі, каторай яна страшэнна ні любіла, за рабункі, якія папаўнялі немцы.

Яна мела адну дачку, каторую выдала замуж за князя Чартарыйскага, нейкага пляменьніка аўстрыйскага імпэратара Франца-Іосіфа. Князь Чартарыйскі ў той час быў гэнэралам і кіраваў нейкім корпусам у аўстрыйскай арміі. Дачка княгіні мела шмат дзяцей, партрэтаў якіх было поўна ў старой княгіні.

Са сваімі падуладнымі княгіня была добрай і за працу ўзнагароджвала шчодра. Ірэдка, калі звярнуўся да ле нехта пагарэўшы з просьбай аб дазвол высечы кроквы на хату, княгіня ні толькі давала гэты дазвол, але як беднаму беларусу дала дрэва на два дамы поўнасьцю з кроквамі і дошкамі, а яшчэ у падатак 3000 руб. на пражыцьцё з сям'ёй, як пагарэўшаму. Так надзяляла яна шчодра, калі даведвалася, што той хто зьвяртаўся да ле з просьбай сапраўды беларус і бедны чалавек, якому неабходная дапамога. Працаўнікі княгіні займалі свае становішчы з пэдзеда-прадзеда і часта густа амаль нічога не рабілі, а атрымоўвалі ад ле ўсё за тое, што іх дзяды і бацькі ў ле працавалі. Булынка-стаяр, працаваў у ле ў палацы 40 гадоў. За гэта вучыла яго дзяцей на свой кошт. Лясьніка Мяцежу яна вышэй цаніла, як загадчыка маёнткаў, бо княгіня яму верыла і ён быў гэтага варты. Аканом Карзон вывучыў пры ле дапамозе сыноў сваіх аднаго на доктара, другога на ахвіцэра, і на іх яна магла палягаць. Хто праслужыў у ле 15-10 гадоў, атрымоўваў узнагароду, апрача сталай пэнсіі па 2-3-5.000 руб. У Кухціцах, домікі для парабкаў, былі ўзорам для добрага мястэчка. Кожная кватэрка мела 2 пакоі і кухню. Сямейны працаўнік меў права на кошт маёнтку трымаць карову, 2 сьвіньні, курэй і 1/2 дзесяціны гароду, плюс 7 пуд. хлеба, дровы, соль, газа і 10 руб. грашыма ў месяц і да таго поўную свабоду ад усякіх сабраньняў, якімі сёгоньня так шчодра кормяць калгасьніка ў краіне сацыялізму.

Выехала княгіня ў госьці да сваёй дачкі ў Аўстрыю і ўжо ўбачыў я ле значна пазьней у Варшаве на вул. Фоксаль нр. 3, дзе яна мела свой дом /яна называла палац/, каторы хацелі ў ле палякі заняць пад нейкі

урад, але яна не дала, зьвярнуўшыся да ангельскай амбасады аб апеку над ёй, як ангельскай грамадзянкай. Пакінула яна, як расказвала, у Менску, вялікі скарб золата і брыльянтаў, ацэніваючы яго на 1200000 руб. золатам. Не шкадавала яна, што асталося, але казала лепей-бы гэта дасталася сваім беларусам. Потым выехала княгіня ў Швайцарыю ў Цюрых, бо не магла цярпець, як яна казала зьдзеку палякоў над ёй. Там мы і разьвіталіся, бо я выехаў дзеля беларускай працы ў Вільню, а пазьней у Менск, як сябра Беларускай Вайсковай Камісіі.

На гэтым заканчваю сваё ўспаміны аб княгіні Магдалене-Матыльдзе Радзівілл. Магчыма сёе-тое ў іх ёсьць малаважнае ці нават непатрэбнае, аднак, з огляду на тое, што княгіня Радзівілл, у свой час адыграла ў беларускім нацыянальным жыцьці значную ролю, папулярызуючы беларускую справу ў вышэйшых колах грамадзтва, а аднача́сна падводзячы пад моладзь рух так неабходную матарыяльную базу, я хацеў праз гэтыя ўспаміны накінуць у нашай літаратуры сьлед аб тым, што мала ведама і можа /хоць не павінна/ быць забыта.

Усё-ж частка грошай гэтай беларускай магнаткі, як сплата гістарычнага маральнага даўгу зацягнутага, пакінуўшымі свой народ беларускімі магнатамі ў пару яго дзяржаўнага, нацыянальнага занападу, пайшла на карысьць абуджэньня гэтага народу ў пару ягонага адраджэньня.

Дадам, што апошні раз, перад вайной, жыла княгіня ў Цюрыху, адкуль яшчэ прысылала патроху грошы ў Вільню на беларускую нацыянальную працу.

I.M.

---ооо---

На шырокім сьвеце.

# Амэрыканскія вышэйшыя школы

Кідаючайся ў вочы асаблівасьцю амэрыканскіх вышэйшых школаў ёсьць іхняя, дзіўная для эўрапэйца, разнаякасьць. Сярод 800 вышэйшых школаў Злучаных Штатаў ёсьць малыя, з колькасьцю 500 студэнтаў, але ёсьць і вялікія, як напр. Нью-Ёркскі Унівэрсытэт з 55000 студэнтаў. Мэты ўсіх гэтых вышэйшых навучальных установаў зьяўляюцца аднолькавымі: для ўсіх тых, хто здольнасьці і добрую волю выявіць, стварыць шырокія магчымасьці пазнаваньня. Розьніцы ляжаць не столькі ў вымаганьнях, стаўленых студэнту пры ўступе, ці ў асягненьні акадэмічных ступеняў, колькі ў навуковай якасьці прафэсарскага пэрсаналу, або ў вартасьці бібліятэкі.

Разгледзім сьпярша розьніцу паміж "College" і "University". College можа быць зусім акрэсьленая навучальная ўстанова вонкі Унівэрсытэту, якая займаецца толькі аднэй акрэсьленай галіной навукі: сельскагаспадарчыя, мастацкія, тэхнічныя вышэйшыя школы /гэтыя апошнія завуцца таксама інстытутамі/, на якіх наагул існуюць аднолькавыя варункі прыняцьця і абавязваюць аднолькавыя навучальныя пляны і экзамінацыйныя распарадкі. Ёсьць, аднак, і выключэньні. Напр. нямецкі факультэт хоць ён зьяўляецца часткай унівэрсытэту, завецца College, альбо School. I так ёсьць a college of Law /юрыдычны факультэт/, a School of Medicine /мэдыцынскі факультэт/, a college of liberal Arts філязафічны факультэт/, a school of Science and Mathematics /матэмат.-прыродазнаўчы факультэт/, a college of Engeneering /інжынэрыйны факультэт/.

Такім чынам розныя Colleges могуць быць паасобнымі, незалежнымі ад сябе, спэцыялізуючымі ў пэўных, вузка акрэсьленых галінах, акадэмічны-

мі ўстановамі вонкі ўнівэрсытэту,альбо розныя Colleges ці Schools могуць быць аб"яднаны ў межах ўнівэрсытэту пад адным супольным кіраўніцтвам.У кожным штаце ёсьць найменш адзін унівэтсытэт.Ён дзеліцца на 2 часткі з рознымі навучальнымі плянамі: "Undergraduate Division прымае студэнтаў,якія пасьля 8-мі сэмэстраў тытул "The Bachelors Degree" асягаюць;" Graduate Division "мае на мэце далейшае спэцыялізаваньне гэтага" Bachelors" да ступені "Master Degree ",альбо яшчэ далей да " Doctors Degree".

Большасьць Collegesці інстытутаў,якія не належаць да ніякага ўнівэрсытэту,маюць толькі "Undergraduate Division ",яны ні маюць вышэйшага курсу для асягненьня доктарскай ступені.

Вялікая разнастайнасьць амэрыканскіх вышэйшых школаў ляжыць і ў характары іх матар"яльнай базы.Адны з іх зьяўляюцца ўстановамі,якія ўтрымоўваюцца з ахвяраваньняў /вядомы ўнівэрсытэт Гарвард,Прынстэтон/,іншыя атрымоўваюць дапамогу ад рэлігійных аб"еднаньняў ці гарадзкіх самаўрадаў,другія з яшчэ іншых крыніцаў.Большасьць усё-ж зьяўляецца дзяржаўнымі ўстановамі фінансаванымі дзяржавай.Ня маючы пад рукою статыстычных дадзеных назаву тут Міамі-Унівэрсытэт /Охфорд,Огіо/,які атрымаў у 1944 г. ад дзяржавы і ад свайго штату больш чым 100.000 даляраў.

Адзін студэнт каштуе ўнівэрсытэту ў год 440 даляраў.100 даляраў плоціць студэнт у дзяржаўную касу,рэшта 340 даляраў пакрываецца падаткамі і дапамогамі.

Дзяржаўны Аддзел Ўзгадаваньня даглядае толькі пачатковых і сярэдніх школаў.Дзяржаўны нагляд над акадэмічнымі школамі выконвае кураторыюм /Board of Trustees /.У штаце Огіо напр.,сябры кураторыюм пакліваюцца гувэрнэрам і зацьвярджваюцца сэнатам.Пакліваюцца яны на 8 гады у колькасьці 9 асоб.Таму,што кадэнцыя самаго гувэрнэра трывае толькі 2 гады,палітычныя ўплывы пры пакліканьні складу кураторыюм наўрад ці магчымы.У галіне навуковай дзейнасьці і абсады паасобных катэдраў вырашаюць факультэты самастойна;у прыватнасьці выбар рэктара і дэканаў адбываецца спасярод сяброў створанага праз кураторыюм супольна з навуковым пэрсаналам камітэту.Дэканы факультэтаў і рэктар выбіраюцца на неакрэсьлены час.

Чатыры гады павінен студ"яваць студэнт,каб асягнуць першую акадэмічную ступень Bachelors Degree.Ён студ"юе ў Undergraduate Division ,якая зьяўляецца асноўны днём сыстэмы амэрыканскіх школаў і складаецца з 4-ох курсаў.З-прад 1 гадоў захаваўся звычай студэнта 1-га курсу называць Freshmann /нясьпелы, - тое,што ў нас "зялёны"/,студэнта 2-га курсу Sophomor /тое самае,што папярэдне/,далей Junior і ўрэшце Senior..

Мернікам студэнцкай працы зьяўляецца сэмэстрагадзіна /-тыднёва адна гадзіна выкладаў і дзьве гадзіны лябараторных заняткаў пры працягласьці сэмэстру 16 тыдняў./ Адна сэмэстрагадзіна азначае такім чынам 48 гадзін у сэмэстры.З кожнага прадмету адбываецца ў канцы сэмэстру трохгадзінны пісьмовы іспыт.Гэтыя іспыты зьяўляюцца ня толькі сродкам спраўджаньня ведаў студэнта,яны павінны ня толькі адабражаць веды студэнта,але таксама і прафэсар,якога гэтыя іспыты мацней абцяжваюць,атрымоўвае агляд плёнаў свае працы.На падставе вынікаў іспытаў залічваюцца сэмэстрагадзіны:вынік клясыфікуе студэнта ў адну з 5-ці катэгорыяў:катэгорыя А: лепшыя 5%,катэгорыя В: звыш сярэдняга;катэгорыя С: добрая сярэдзіна /ахоплівае калія паловы ўсіх студэнтаў/;катэгорыя D: ніжэй сярэдняга;катэгорыя Е: дрэнныя /прадмет павінен быць паўтораны/.Каля 10% студэнтаў кожнага 1-га курсу штогод звальняецца з прычыны недастатковых посьпехаў,пасьля другога і трэйцяга курсаў яшчэ адпадае некаторы %,на гэты раз ён ужо меншы,чым папярэдні.

Студэнт атрымоўвае звычайна на працягу першых двох курсаў агульную асьвету і толькі пасьля гэтага выбірае сваю акрэсьленую спэцыяльнасьць.Ён павінен выслухаць і залічыць па 16 сэмэстрагадзін у настуных 4-х галінах веды:1.ангельская мова і літаратура,гісторыя мастацтва,

стылістыка. 2. чужая мова і літаратура. 3. грамадазнаўства. 4. матэматыка і прыродазнаўства.

Толькі тады мае права студэнт сабе спэцыяльнасьць выбраць, да якое адчыняюць яму дарогу найменш 30 і найбольш 50 папярэдні залічаных сэмэстрагадзін. Такім чынам фактычная спэцыялізацыя выдуляецца магчымай толькі пасьля атрыманыя ступені Bachelors Degree.

Неабгрунтаванае прапусканьне аднаткаў допускаецца ў вузкіх межах, у залежнасьці ад колькасьці гадзін у тыдзень; прадмет, які выкладаецца 3 гадзіны ў тыдзень, дазваляе трохгадзінны "хвост" на сэмэстар. Бесьпрэчна, існуюць і некаторыя прывілегіі: студэнты катэгорыяў А і В могуць наведваць выклады так, як яны самы хочуць. Іх не абавязвае прымус наведваньня. Для студэнтаў, якія заквалiфікаваны "звыш сярэдняга" на трэцім годзе студыяў арганізоўваюцца спэцыяльныя курсы. Юніёр, які на апошнія 4 сэмэстры, выбраў сабе напрамак спэцыялізацыі, атрымоўвае ад адпаведнага прафэсара, з якім ён цяпер знаходзіцца ў сталым кантакце, прыдзел працы роўны 12 сэмэстрагадзінам. Удзельнікі гэтага курсу атрымоўваюць па сканчэньні яго дыплём спэцыяліста "with honnours".

Пасьля 8 сэмэстраў атрымоўваюць усе студэнты, які выкажуцца залічанымі 124 сэмэстрагадзінамі, "The Bachelors Degree", гэтая ступень заканчвае навучаньне ў Undergraduate Division унівэрсытэту.

Многія студэнты і пакідаюць з гэтай акадэмічнай ступеньню вышэйшую школу, найвышэй 20% паступае ў Graduate Division, сярод іх пераважае будучы навуковы маладнік, каб, у лепшым выпадку, пасьля двох сэмэстраў асягнуць ступень Master Degree і пасьля найменш 6-ці сэмэстраў /практычна 10 да 12 сэмэстраў/ здабыць ступень Doctors Degree.

Здабыцьця Masters Degree найчасьцей атрымоўваюць ужо становішчы асыстэнтаў ці лектараў. Доктарская ступень, якая ставіць падобныя вымаганьні як габілітацыя ў Нямеччыне, асягаецца не раней 30 году жыцьця.

З рэшты 80% студэнтаў Undergraduate Division, якія не паступалі ў Graduate Division, частка прадаўжае далей распачатую ў папярэдніх 2-х гадох спэцыялізацыю. Мэдыку трэба яшчэ 8 сэмэстраў вышэйшай мэдыцынскай школы, каб стацца доктарам. Праўнік ідзе ў школу юрыстых і можа быць цераз 2 гады Bachelor of Law. Шмат хто з студэнтаў пэдагагічных факультэтаў здабывае ступень Masters Degree у Graduate Division, якая /ступень/ ў некаторых штатах вымагаецца для выконваньня пэдагагічнай практыкі. Студэнты тэалёгіі здабываюць з пачатку ступень Bachelors of Arts на філязофічных факультэтах, а потым пасьля двух сэмэстраў тэалягічнай вышэйшай школы стаюцца Bachelor of Divinity. Пайшоўшыя на інжынерныя вышэйшыя школы студэнты канчаюць свае студыі з тытулам Bachelor of Science альбо студ'ююць яшчэ 2 сэмэстры, і атрымоўваюць, як спэцыялістыя хэміі, мэханікі, адпаведныя акадэмічныя ступені. Усе гэтыя студэнты канчаюць свае студыі ў сярэднім на 5 гады старэйшымі за сваіх калегаў у Эўропе, напр. лекар мае 26, праўнік 24 гады.

Шмат хто, аднак, сканчае сваю асьвету пасьля 4-х гадоў студыяў у вышэйшай школе і 22-гадовым юнаком уступае на працу ў прамысловасьці альбо ў іншай галіне да спэцыяльнасьці.

Таксама і Злучаныя Штаты /як Заходняя Эўропа/ адчуваюць патрэбу рэформы свайго вышэйшага школьніцтва, невядома, аднак, у якой меры удасца на працягу бліжэйших 50-ці год разнаякія навучальныя установы зьвесьці да аднаго супольнага узроўню. Агульная тэндэнцыя ідзе у напрамку зьвялічэньня вагі агульнага узгадаваньня перад спэцыялізацыяй. Разьвіцьцё ў сацыяльнай, гаспадарчай і палітычнай галінаў, якое ахапіла як цэлы сьвет, так і Амэрыку, вымагае больш шматбаковага і глыбокага разуменьня адказнасьці адзінкі і агулу. Галоўная мэта унівэрсітэцкіх студыяў будзе заставацца заўсёды аднолькавай: прыгатаваць

маладых людзей духова, умыслова і фізычна так жыць, каб яны маглі цалком разьвіць свае здольнасьці, каб яны навучыліся разумець іншых і з імі супрацоўнічаць ня трацячы пры гэтым свае самастойнасьці, свабоды і не вымушаючы свайго характару. Студэнт павінен навучыцца устанавіць для свайго уласнага думаньня і паводзін пэўныя нормы, правілы, паводле якіх ён будзе кіраваць сваю дзейнасьць. Урэшце ягонае узгадаваньне павінна весьці ў напрамку знайходжаньня магчымасьціў пераформоўваць існуючае.

У такой самай меры, як зьмяняюцца абставіны быту, павінна зьмяняцца ўзгадаваньне, калі яно мае за заданьне непарарыўна пхаць наперад разьвіцьцё дэмакратычнай думкі нашай краіны /Амэрыкі —— рэд./ і гэтым прычыніцца да асягненьня мэты, якой зьяўляецца Дабро Адзінкі і Цэласьці.

Палк. Л. П. Ірвайн
/"Студэнтішэ Блеттэр" Нр. 2/
Пераклад Р. М.

---ооо---

## ПРАБЛЕМЫ ДЭМАКРАТЫЧНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА СТУДЭНЦКАЙ МОЛАДЗІ

Вясна і лета гэтага году ў жыцьці нямецкай моладзі наагул і нямецкага студэнцтва ў прыватнасьці праходзяць пад знакам нарадаў, зьездаў, спатканьняў з выдатнымі адзінкамі культурна-грамадзкага жыцьця іншых народаў і студэнцтвам наагул гэтых народаў.

Далей 13, 14 і 15 чэрвеня г.г. у Тітізээ каля Фрайбургу адбываецца першае пасьля заканчэньня другой сусьветнай вайны спатканьне прадстаўнікоў арганізацыі Сусьветнай Студэнцкай Дапамогі /World Student Relief —— W.S.R./ і I.S.S. /International Student Service/ з аднаго боку з прадстаўнікамі нямецкага студэнцтва з другога боку. Мэта зьезду: 1. навязаньне кантакту паміж студэнцтвам нямецкім і студэнцтвам іншых краін, 2. абгаварэньне справы заснаваньня прадстаўніцтваў Сусьветнай Арганізацыі Дапамогі Студэнтам ў Нямеччыне і устанаўленьне парадку арганізаваньня гэтых прадстаўніцтваў.

У зьезьдзе узялі удзел прадстаўнікі студэнцтва Амэрыкі, Швайцарыі, Францыі, Англіі, Галяндыі, Бэльгіі. Не зьявіліся на зьезд студэнты Савецкага Саюзу і савецкай зоны Нямеччыны. У якасьці ганаровых гасьцей былі прадстаўнікі акупацыйных уладаў трох заходніх зонаў Нямеччыны, вядучыя асабістасьці Узгадаваўчага Аддзелу Французскага Вайсковага Ураду, шматлікія рэпрэзантанты вярхоў культурнага жыцьця замежжа і сучаснай Нямеччыны.

Пасьля узаемнага абзнаймленьня прадстаўнікоў былі парушаны студэнцкія праблемы ў розных краінах нашага сьвету і ў сувязі з гэтым ролі Сусьветнай Арганізацыі Дапамогі Студэнтам / W.S.R./ у дачыненьні да нямецкага студэнцтва. Прадстаўнікі нямецкіх студэнцкіх арганізацыяў у сваіх выступах падкрэсьлівалі цяжкае духовае і матар'яльнае становішча нямецкага студэнцтва.

На зьезьдзе пастаноўлена стварыць пры усіх унівэрсытэтах у Нямеччыне камітэты W.S.R., які будуць складацца з 5-ці асобаў. Заганьны Камітэт Сусьветнай Арганізацыі Дапамогі Студэнтам мае аб'ядноўваць паасобныя унівэрсытэцкія камітэты, якія пасылаюць туды па аднаму прадстаўніку кожны.

Такім чынам зьезд меў на мэце парадусім арганізацыю матар'яльнай дапамогі звонку нямецкім студэнтам.

Цераз месяц, бо ў пачатку ліпеня, адбыўся ў Мюнхэне міжнародны зьезд моладзі. Зьезд меў сапраўды міжнародны характар, бо прынялі

у ім удзел прадстаўнікі нават так далёкіх краінаў як Кітай, Чылі, Эгіпет і Індзія, не гаворачы ўжо аб эўрапэйскіх дзяржавах. На гэты зьезд прыбылі прадстаўнікі моладзі Савецкага Саюзу.

Сярод яшчэ большшматлікага прыбыўшай інтэлектуальнай эліты культурнага сьвету мы бачым такія прозьвішчы як: ведамы француски паэта Андрэ Жыд, тварэц сацыялістычнага рэнэсансу паэта Жэф Ліст /Галяндыя/, Др. Вальтэр Робэрт Корті — заснавальнік дзіцячай вёскі "Пэсталёццы", швайцарскі знаўца псыхалёгіі моладзі Оскар Шпіг, прадстаўнік эгіпецкага студэнцтва мр. Бакры і кітайскі дэлегат Шоу-Сіі-Сунг.

Зьезд меў перапусім вялікае узгадавачае значэньне. Глыбока была парушана справа адказнасьці адзінкі перад агулам, народу перад людзтвам. Неаднаразова падкрэсьлівалася вялікая роля моладзі ў фармаваньні будучага сьвету. Той факт, што зьезд адбыўся якраз у Нямеччыне з пераважаючым удзелам нямецкай моладзі, сьведчыць аб тым, што аб перавзгадаваньне гэтай моладзі найбольш разыходзіцца. Гэта пацьвярджае і характар прамоваў сказаных на зьезьдзе, перапусім знатнымі замежнымі гасьцямі, выказваньні якіх можна уважаць як мотто зьезду. Прамовы гэтыя можна падзяліць на 2 катэгорыі: Першая — гэта прамовы, якія падкрэсьліваюць неабходнасьць найхутчэйшай адбудовы Нямеччыны і, забыўшыся аб мінулым, заклікаюць нямецкую моладзь да сяброўскага супрацоўніцтва зачынаючы вочы на тое, што гэтая апошняя нелк ні папта горнецца да такога сужыцьця.

Так праф. Цюрэрс, кіраўнік швайцарскай гранічнай дапамогі, сказаў:"Эўропа прайграла вайну, бо яна сама сябе згубіла. Яна згубіла сваю істоту. Істота Эўропы ляжыць у умеркаванасьці. Там, дзе Азія любіць бязьмежнае, Амэрыка велічу размаху, Эўропа займае умеркаваную сярэдзіну. І было-б вельмі неэўрапэйска, калі-б мы дапусьцілі адзін народ на доўгія часы гібець у цяні, калі-б мы хацелі трымаць нямецкі народ у сталым стане напружаньня паміж вайной і мірам". Праф. Цюрэрс перасьцерагае нямецкую моладзь перад глыбокай глёрыфікацыяй нядаўнай мінуўшчыны, якая /глёрыфікацыя/ магла-б зьявіцца ў выніку цяжкага сяньняшняга палажэньня Нямеччыны.

Ангельскі пісьменьнік Н. Г. Брэйльсфорд гаворыць: "Нашым жаданьнем зьнішчыць сьцерці усе межы ў нашых сьветапоглядах і пачуцьцях. Вы, немцы, мусіце самі ў сябе спытацца, як да гэтага дайшло, што ваша пакаленьне сьцягнула гэтую вайну на людзкасьць. Мы, ангельцы, мусім спытацца ў нашага пакаленьня, чаму мы перад 1939 г. не змаглі знайсьці такой палітычнай і эканамічнай сыстэмы, якая назаўсёды выключыла-б вайну з гісторыі людзтва. Усё яшчэ стаіць перад нашымі дзьвярыма заданьне стварыць сусьветнае панаваньне міру. Запляванаы сьвет — сьвет для кожнага і страх за жыцьцёвы прастор будзе зьявай мінуўшчыны".

Францускі пісьменьнік Жозэф Рован між іншым сказаў: "Я упэўнены, што тое што нас маладых людзей можа зьвязваць у цэлым сьвеце, што з нас можа зрабіць моладзь усяе людзкасьці, да чаго мы і пакдікаты часткова ў нашым маладым жыцьці, ёсьць перакананьне, што мы ў аднолькавым сьвеце аднолькавыя заданьні маем супольна выканаць".

Да другой катэгорыі трэба залічыць прамовы, у якіх ня так лёгка дароўваюцца немцам грахі мінулага, у якіх падкрэсьліваецца пэўнае сяньняшняе нежаданьне пазбыцца гэтых грахоў з боку немцаў і ў якіх варунак пазбыцьця старых поглядаў немцамі, ставіцца як перадумова далейшага супрацоўніцтва.

Так галяндзкі паэта Жэф Ліст гаворыць, што ён гатоў забыцца аб мінулых памылках немцаў, ён гатоў сяньня бачыць пазітыўнае жаданьне нямецкай моладзі супрацоўнічаць з дэмакратычным сьветам і лічыць гэта найдатнае конта нямецкага народу. "У гэтых днях мы пачулі шмат скаргаў" — кажа ён, "я ні на хвіліну не сумняваюся, што гэтыя скаргі абгрунтаваныя. Шкада мне дзявэтуль не хапае яшчэ аднаго: я ні разу не пачуў тону прыязьні. А бяз прыязьні стварыць нічога ня можна. Я не па-

чую таксама, каб нехта прышоў да мяне і сказаў: цяжка мы галадаем і пакутуем, але дзякуй Богу мы ізноў маем волю рачова сказаць, чаго мы хочам!" Прамоўца успамінае як, ня так даўно пад пагрозай высылкі на прымусовыя працы ў Нямеччыну, яны выдавалі ў Галяндыі нелегальную прэсу і якой радасьцю было для іх прагаласаньне праўды ў тых варунках. Гэтага энтузіязму змагацца за новы справядлівы сьвет ня бачыць прамоўца ў сяньняшняй нямецкай моладзі.

Праф. др. С. Тэй з унівэрсытэту Батна перадаў настаўленьне ад Магатмы Гандзі: "Трымайцеся моцна ідэалаў Праўды, Любові і Абавязку; калі вас паміж сабою будзе лучыць любоў, ня будзе больш войнаў на сьвеце".

Андрэ Ульман, галоўны рэдактар "Трыбюн дэ Нацыён", у кароткіх словах дэфініюе паняцьце адказнасьці нямецкай моладзі: "Бясьпярэчна вы адказны, глыбока адказны. Не забывайце аднак, што ў нашых вачох вы адказны ня толькі за мінулае, але перадусім за нашую і вашую будучыню. Гэта завецца быць вінаватым і то падвойна вінаватым, калі ад гэтае адказнасьці імкнешся ухіліцца і захоўваешся так быццам-бы чакаў новай катастрофы. За шмат сярод вас ёсьць такіх, што разглядаюць магчымасьць будучай вайны як выхад з вашага цяжкага становішча, альбо ў лепшым выпадку захоўваюцца так, быццам-бы верылі ў гэта".

Спадар Шоу-Сіі-Сунг /Кітай/ зацытаваў словы Канфуцыя: "Не рабі твайму блізкаму таго, чаго ня хочаш, каб іншыя табе зрабілі". Што перакладаючы на мову сучаснай палітыкі сп. Шоу-Сіі-Сунг выказвае як: "Ня хочаце, каб іншыя вашу старонку акупавалі, дык не захоплівайце краінаў іншых. Я прашу нямецкую моладзь усьведаміць гэтыя словы і трымацца іх у будучыні, калі сяньняшняя моладзь хоча быць калісь вялікімі людзьмі з вялікімі уплывамі".

Такім чынам, гэты зьезд меў сваім заданьнем, пры помачы абмену думак між чалавымі асабістасьцямі культурнага жыцьця захаду і студэнцтва замежжа з аднаго боку і нямецкім студэнцтвам з другога боку, прычыніцца да навязаньня сьціслага кантакту, які-б ,улучыўшы нямецкую моладзь у міжнародную сям'ю моладзі, даў ёй магчымасьць,у дэмакратычным супрацоўніцтве поплеч з іншымі, перавузгадавацца і прычыніцца да адбудовы новага сьвету. Характар некаторых прамоваў дазваляе цьвердзіць, што як дагэтуль гэтая моладзь аднак ня надта да супрацоўніцтва, інакшай ня прышлося-б наракаць ні на недахоп тону прызьні, ні брак "жаданьня нямецкай моладзі адбудовы новага сьвету"; тым больш ня прышлося-б нагадваць аб "адказнасьці ня толькі перад мінуўшчынай, але перадусім перад будучыняй".

Відаць тут нешта ня зусім у парадку..., але аб гэтым потым.

Нарэшце ў пачатку жніўня г. г. /8-га да 10-га/, у Зээсгаупт каля Мюнхэну адбыўся зьезд дэлегатаў студэнцтва ад усіх унівэрсытэтаў амэрыканскай зоны. Хаця зьезд, як і папярэднія, быў запляновані ў шырэйшым маштабе з удзелам шматлікіх гасьцей з-за мяжы, меў ён чыста унутрана-нямецкае студэнцкае значэньне, а то дзеля таго, што: папершае на парадку дзённым сталі пытаньні унутранага, арганізацыйна-унівэрсытэцкага і арганізацыйна-студэнцкага характару; а падругое госьці з-за мяжы апрача Швайцарыі ня прыбылі. На адчыненьні зьезду рэпрэзэнтаваны былі прадстаўнікі акупацыйных уладаў 3-ох заходніх зонаў Нямеччыны, прадстаўнікі баварскага Міністэрства Культуры, рэктары некалькіх унівэрсытэтаў і студэнты-госьці іншых зонаў Нямеччыны. Гэтыя апошнія узялі удзел у нарадах з правам дарадчага голасу. На зьезьдзе шырока былі абгавораны напрамкі, у якіх павінна пайсьці рэформа вышэйшага школьніцтва Нямеччыны, справа аўтаноміі,ці падпарадкаваньня акадэмічных школаў адміністрацыйным уладам і неабходнасьць супрацоўніцтва студэнцкіх арганізацыяў з навуковым і адміністрацыйным кіраўніцтвам унівэрсытэтаў. Зьезд выбраў "Цэнэнрат" — кіруючы орган студэнцтва на амэрыканскую зону, які аб'ядноўвае сабою паасобныя A.S.T.A.

/Akademisches Studenten Ausschuss/ вышэйшых навучальных установаў амэрыканскай зоны Нямеччыны. У склад Зональнай Рады увайшло 5 асоб.

Зьезд закончыўся 10-га жніўня мастацкім вечарам перайшоўшым у агульныя танцы.

Вось кароткі агляд таго ажыўленьня ў жыцьці нямецкага студэнцтва, якога сьведкамі давялося нам быць на працягу апошніх 4-ох месяцаў.

Наколькі міжнароднае студэнцкае жыцьцё наагул, і студэнцкае жыцьцё Нямеччыны ў прыватнасьці датычаць студэнтаў чужынцаў а разам з імі і нас-беларускіх студэнтаў, здабываючых вышэйшую асьвету на акадэміцкіх навучальных установах Нямеччыны і наколькі мы бяром удзел ў гэтым жыцьці?

Паводле прыблізных дадзеных у заходніх зонах Нямеччыны студ'юе сяньня каля 10.000 чужынцаў. Амаль усе яны наведваюць нямецкія унівэрсытэты і спэцыяльныя вышэйшыя школы. Кожная нацыянальная студэнцкая група мае амаль на усіх вышэйшых навучальных установах сваe лякальныя арганізацыі, а таксама і сваe студэнцкія нацыянальныя цэнтры з абсягам на 3 заходнія зоны Нямеччыны. У некаторых большых унівэрсытэцкіх цэнтрах паасобныя нацыянальныя арганізацыі аб'ядналіся ў супольную адну арганізацыю, маючую за заданьне рэпрэзэнтаваць студэнтаў-чужынцаў /у сваёй пераважнай колькасьці Д. П./ перад нямецкімі і акупуючымі Нямеччыну уладамі. Так у Мюнхэне існуе Інтэрнацыянальная Студэнцкая Асацыяцыя, у якую апрача Мюнхэнскага Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня уваходзіць яшчэ 8 нацыянальных студэнцкіх арганізацыяў. Нажаль няма яшчэ цэнтру, які аб'ядноўваў-бы паасобныя нацыянальныя цэнтральныя студэнцкія арганізацыі ў адну, рэпрэзэнтуючую усіх студэнтаў-чужынцаў на тэрыторыі 3-ох заходніх зонаў Нямеччыны, арганізацыю. Спадзяёмся, што да гэтага незадоўга дойдзе.

Справа аднак ня ў гэтым. Мне хочацца тут парушыць пытаньне адносін да нас студэнтаў-чужынцаў у Нямеччыне нямецкіх студэнцкіх арганізацыяў, а таксама і замежнага студэнцтва.

Характэрным для гэтых адносінаў зьяўляецца тое, што толькі на апошні зьезд у Зээсгаупт афіцыйна былі запрошаны прадстаўнікі Інтэрнацыянальнай Студэнцкай Асацыяцыі ў Мюнхэне. На зьезьдзе ў Тітізээ наш голас быў чуцен толькі таму, што была запрошана рэлігійная арганізацыя студэнтаў-каталікоў "Унітас", якая мела мандат "Пакс Романа" і незапрошанай быць не магла. Праз пачуцьцё салідарнасьці, аднак, да усіх студэнтаў-чужынцаў дэлегацыя Унітас лічыла патрэбным бараніць інтарэсы усіх сваіх калегаў у Нямеччыне. Дзякуючы яе стараньню на парадак дня нарадаў быў пастаўлены рэфэрат аб студэнтах чужынцах у Нямеччыне, у якім рэфэрэнт у яскравых фарбах прадставіў цяжкае нашае становішча і апэляваў аб дапамогу да Сусьветнай Арганізацыі Дапамогі Студэнтам. Рэфэрат знайшоў прыхільны водгук у прадстаўнікоў гэтай і іншых студэнцкіх арганізацыяў, у выніку чаго ў Камітэты W.S.R. і I.S.S. якія маюць быць створаны пры усіх унівэрсытэтах у Нямеччыне, павінны увайсьці найменш па аднаму /на агульную колькасьць 5/ прадстаўніку ад студэнтаў-чужынцаў. Паасобныя унівэрсытэцкія камітэты твораць камітэт вышэйупомненых арганізацыяў на зону, у які таксама павінен увайсьці прынамсі адзін прадстаўнік адпаведнай арганізацыі студэнтаў-чужынцаў.

З гэтай прыхільнай рэакцыі прадстаўнікоў замежных студэнцкіх арганізацыяў на наш голас мы лічым, што ненавязаньне кантакту з іх боку са студэнтамі-чужынцамі ў Нямеччыне трэба аднесьці толькі на рахунак непаінфармаванасьці. Нажаль на гэты рахунак ня можна аднесьці факту абаходжаньня і замоўчваньня нашай прысутнасьці на нямецкіх унівэрсытэтах з боку нямецкіх студэнцкіх арганізацыяў, якія спатыкаюцца з намі ў штодзённым жыцьці. Гэта ужо мусіць трэба аднесьці на рахунак таго "недахопу прыязьні", "нежаданьня прычыніцца да адбудовы новага сьвету", ці нават "глёрыфікацыі нядаўнай мінуўшчыны", аб якіх гаво-

рацъ зусім правільна праф. Цюрэрс і сп. Жэф Ліст у сваіх прамовах.

Мы, якія бачым нямецкае студэнцтва як кажуць "ад кухні", не з таго фасаду, які яно выстаўляе прадстаўнікам замежных дапамаговых арганізацыяў, маглі-б яшчэ шмат што дадаць. Ня нашай аднак справа убіваць кліны там, дзе усё-ж трэба было-б з огляду на супольнае дабро склеіць, направіць, пераўзгадаваць. Мы студэнты-чужынцы ў Нямеччыне маем права жадаць ад нямецкага студэнцтва неігнараваньня нас і нашых арганізацыяў, а прыняцьця нас у межах агульнага супрацоўніцтва студэнцтва і прызнаньня нашых рэпрэзэнтацыяў ува ўсіх агульнастудэнцкіх мерапрыемствах. Гэта ёсьць элемэнтарная падстава дэмакратычнага супрацоўніцтва студэнцкай моладзі, да якога мы першыя працягваем руку.

Апошнія падзеі, а іменна апошні зьезд у Зээсгаупт сьведчыць аб што, гэтае супрацоўніцтва хоць з вялікімі цяжкасьцямі ўсё-ж наладжваецца. Гэтым разам у якасьці гасьцей была запрошана дэлегацыя ад Інтэрнацыянальнай Студэнцкай Асацыяцыі ў Мюнхэне, у склад якой увайшлі сябры па аднаму прадстаўніку ад кожнай нацыянальнай мюнхэнскай студэнцкай арганізацыі. Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Мюнхэне рэпрэзэнтаваў старшыня яго кал. М. Р., у якасьці карэспандэнта студэнцкай прэсы быў кал. А. А.

Як асягненьне ў напрамку паразуменьня трэба адзначыць той факт, што ў Зянальны Камітэт, які мае аб'яднаць усе W.S.R. амэрыканскай зоны, увайшоў адзін прадстаўнік ад Інтэрнацыянальнай Студэнцкай Асацыяцыі у Мюнхэне. У рамах мастацкага вечара 10-га жніўня, нацыянальныя студэнцкія арганізацыі уваходзячыя ў I.S.A. далі ў выкананьні сваіх сьпевакоў і артыстаў кароткія праграмы кожная свайго нацыянальнага мастацтва.

Асінскі.

---ооо---

З б е л а р у с к а г а ж ы ц ь ц я .

ДРУГІ ЗЬЛЁТ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ.

Ужо па дарозе са станцыі ў беларускі лягер у Остэргофэне спаткала нас прыемная неспадзеўка: на дузе разьбіты 3 палаткі беларускіх скаўтаў "Вільня", "Пінск" і "Менск". У лягеры сьвяточны настрой. Ня дзіва. Тут скаўцкі зьлёт. Усюды бачыцца беларускіх скаўтаў і скаўтак з рознаколернымі хусткамі і адзнакамі, якія прыехалі сюды з усіх бакоў Заходняй Нямеччыны.

- - - - - - - -

У днях 8.,9. і 10 жніўня г.г. адбыўся ў беларускім лягеры ў Остэргофэне зьезд скаўтаў сэніёраў і скаўцкіх кіраўнікоў З.К.С.Ч.

Раніцою 8 жніўня быў падняты бел-чырвона-белы сьцяг пад гукі песьні "Беларусь, наша Маці-Краіна". Пасьля гэтага для ўсіх удзельнікаў зьезду быў адслужаны ў лягернай царкве мясцовым сьвятаром урачысты малебен.

Гэтага-ж дня а другой гадзіне пасьля абеду наступіла фактычнае адкрыцьцё Зьезду.

Зьезд адчыніў Шэф Крывіцкіх Скаўтаў сябра П. Былі зачытаны шматлікія прывітальныя лісты ад беларускіх арганізацыяў і асобаў. Пасьля выбараў старшыні Зьезду/др. В/ і сябраў прэзыдыюм Зьезд прыступіў да нарадаў. Як першы пункт парадку дня удзельнікі заслухалі справаздачу Галоўнага Кіраўніка З.К.С.Ч. і Галоўнай Кіраўнічкі Скаўтак /як ведама, З.К.С.Ч. было заснована 6-га ліпеня 1946г./. Трэба зазначыць, што кіраўніцтва беларускіх скаўтаў палажыла шмат працы ў арганізацыі

нашага скаўтынгу,які за год,пасьля ўніцыі яго ў арганізацыйныя рамы, узрос колькасна амаль у тры разы /паасобныя скаўцкія аддзінкі існавалі ужо ад 1945 г./

Сяньня ў складзе ЗКСЧ стаяць 8 штандары: ангельскай зоны /5 сыцігоў/,амэрыканскай зоны /4 сыцігі/ і францускай зоны /I сыціг/.Дзякуючы кіраўніцтву ЗКСЧ наладжаны сувязі з усімі чужынецкімі скаўцкімі арганізацыямі ў Нямеччыне,а што галоўнае навязана лучнасьць з Інтэрнацыянальным Бюро скаўтаў /Boy Scouts International Bureau -- I.B./.Праўда,I.B. ні прызнала дасюль нашага скаўтынгу як самастойнай арганізацыі з некаторых палітычных меркаваньняў,аднак,ужо ў гэтым годзе паласьць прапанову аб прызнаньні беларускай скаўцкай арганізацыі,як стаячай пад яго пратэктаратам,да разгледжаньня II-му Міжнароднаму Скаўцкаму Кангрэсу,які адбудзецца ў Парыжы.

Вечарам гэтага-ж дня скаўтаў чакала прыемная неспадзеўка: сюды завітала якраз з нагоды зьезду трупа Беларускага Тэатру эстрады пад кіраўніцтвам сп. камп. М.Куліковіча.У канцэрце прыняў удзел таксама хор лягеру ў Остэргофэне пад кіраўніцтвам камп. Равенскага.

Амаль цэлы другі дзень зьезду прайшоў на нарадах.Падчас абедзеннага перапынку наведаў нашых скаўтаў,калі яны ўсе сабраліся ля палатак,ранейшы кіраўнік Аддзелу Скаўтаў пры Амэрыканскім Вайсковым Аддзеле ў Пасаў.Ён шчыра прывітаў нашых скаўтаў,выразіўшы сваё задавальненьне з тых поступаў,якія асягнулі беларускія скаўты да гэтага часу.Нашы скаўты,са свайго боку,прасьпявалі госьцю некалькі беларускіх і амэрыканскіх песень.Асабліва гэтыя апошнія,весёлыя песьні ў выкананьні чужынцаў,спадабаліся скаўту з-за мора.

Шмат часу заняла зьезду г.зв. справа Ватэнштэцкая.Справа гэтая ня была нагэтульки вялікай,як гучнай.Фактычна ішло аб становішча зьезду да сыцігнога і некалькі старэйшых скаўтаў 10-га сыцігу ў Ватэнштэце,якія не падпарадкаваліся Галоўнаму Кіраўніцтву.Зьезд востра асудзіў паступак вышэйўспомненых скаўтаў перадусім за недысцыплінаванасьць,дау,аднак,магчымасьць ім рэгабілітацыі і паваротy ў пакінутыя імі рады.

У перэрве ў працы зьезду ведамы наш лектар А. прачытаў рэфэрат на тэму "Аб нацыянальным самавызначэньні беларускага народу".Рэфэрат меў вялікае нацыянальна-узгадаваўчае значэньне,быў выгалашаны па-мастацку і,зразумела,усім падабаўся.

У далейшым ходзе нарадаў зьезд разглядзеў справу назову "Злучэньне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне -- ЗКСЧ" і вырашыў перамяніць яго на "Злучэньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне -- ЗБСЧ" /аналягічна як гэта сталася ўжо і ў некаторых іншых нескаўцкіх арганізацыях у Заходняй Нямеччыне/.Таксама пастаноўлена ўжываць як пераклад слова "беларус","беларускі" на ангельскую мову толькі слова "Whiteruthenian ". Зьезд вызначыў цэлы шэраг камісыяў,якія маюць у будучыні апрацаваць і зрэфармаваць паасобныя галіны нашага скаўцкага жыцьця;трэба вылачыць тут статутовую камісыю,якая,апіраючыся на практыцы аднагадовай працы,выправіць недахопы ранейшага статуту.

Ужо быў позны вечар,калі зьезд,удзяліўшы былому Галоўнаму Кіраўніку абсалюторыюм,прыступіў да галоўнага пытаньня парадку дня -- перавыбараў Галоўнага Кіраўніцтва ЗБСЧ.Ацаніўшы заслугі ранейшага Шэфа Беларускіх Скаўтаў сябры П.,зьезд выбраў яго паўторна на гэтае становішча.Заступнікам Галоўнага Кіраўніка выбраны сябра Б. з амэрыканскае зоны,што павінна быць карысным у жыцьці нашай скаўцкай арганізацыі з огляду на наяўнасьць скаўцкіх аддзелаў у 3-х заходніх зонах Нямеччыны.

Новае Галоўнае Кіраўніцтва прывітаў Старшыня Беларускага Акруговага Камітэту і пажадаў яму посьпехаў на гэтым адказным становішчы.

Высылаючы прывітальныя тэлеграмы Прэзыдэнту Б.Н.Р. у Парыж, на міжнароднае скаўцкае Джэмборы / Jambore/ у Парыж і на "Джэмборы"

чужынецкіх скаўцкіх арганізацыяў у Мітэнвальдзе,зьезд закончыў а 8-ай гадз. 10-га жніўня сваю працу.

Ньдзеля 10-га жніўня.Для скаўтаў сьвята - тым больш пасьля двух працоўных дзён.Раньцай малебен.Пасьля абеду скаўты карыстаюць поўнасьцю з аднаго са скаўцкіх праў:"скаўт любіць прыроду",тык надзэўна і Дунай.І вось нашы скаўты адпачываюць некалькі гадзін над тым Дунаем,якога воды,праз горныя запоры,упарта імкнуцца ў наш бок,наўсход і лучацца там дзесь у Чорным моры з водамі роднага,далёкага Дняпра.

Скаўты прыехалі на Зьлёт ня толькі каб працаваць,радзіць,але і вучыцца.І дзеля гэтага яны выслухалі другі рэфэрат,ня менш прыгожы як першы,таго-ж самага аўтара аб"Нашым нацыянальным назове".

9-ая гадзіна вечара.Ля скаўцкага абозу ня толькі скаўты,але і шматлікія жыхары беларускага лягеру ў Остэргофэн.Сьпеў "Беларусь,наша Маці-Краіна" і плаўна на мачце ўзьвіваецца сьцяг.Цішыня.Камендант Зьлёту запальвае традыцыйнае скаўцкае вогнішча.Далёка разносіцца ў начной цішы беларускія песьні.

Зьбліжаецца кульмінацыйны пункт вечару.Скаўты пакажуць,што яны ўмеюць.І сапраўды яны ўмеюць шмат.Вось выступае палатка "Менск",ці,як яны сябе завуць,"Калгас Галодная Брацця" / скаўты з Міхэльсдорфу/.Беларускія і амэрыканскія песьні,мэлёдэклямацыі,фізкультурныя і камічныя выступленьні.Разьвесяліла гэтая "Галодная Брацця" ўсіх прысутных.Чакаем з напружаньнем далей і крыху расчароўваемся:іншым удаецца ня так добра.

Зьбліжаецца заканчэньне зьезду.Урачыста прамаўляе Шэф-Кіраўнік Беларускіх Скаўтаў.Асабліва прыймаюць душу кожнага словы:"І нясеце агонь гэты туды на Бацькаўшчыну".Шэф-Кіраўнік уручае сьціжным і зьвязовым запаленыя галоўні з вогнішча,якое злучыла тут нас усіх беларускіх скаўтаў. Гэтыя галоўні яны павінны завезьці ў свае аддзелы.

Апускаецца бел-чырвона-белы сьцяг. Ізноў у паветры гунаюць словы песьні "Беларусь, наша Маці-Краіна".

- - - - - - -

Раніцою прайходзім каля гэтых самых палатак, якія нас спачатку так прыемна зьдзівілі. Прайходзім аднак не такімі, якімі ішлі сюды. Кожны з нас пачуўся больш блізкім да ўсіх малалых беларусаў-скаўтаў, пачуўся іх братам. Кожны панёс з сабою ўзмоцненую скаўцкую ідэю і занясе яе на Бацькаўшчыну.

В. Еліч

## ВЫСТУПЫ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРУ ЭСТРАДЫ Ў ШЛЯЙСГАЙМЕ.

Нашыя нараканьні на манатоннасьць штодзённага жыцьця былі разьвеяны, калі мы студэнты, а таксама ўсе беларусы жыхары лягеру Шляйсгайм даведаліся, што да нас завіталі нашыя артысты. Параўнаўча невялікая група беларусоў-шляйсгаймцаў старалася прыняць сваіх гасьцей як найлепш і прыклала ўсе стараньні дапамагаючы ў арганізацыі канцэрту ў мясцовым тэатры. У міжчасе найпрыемней было чуць словы жыхароў нашага лягеру не беларусаў: "А! Гэта тая самая беларуская трупа!". У лягеры яшчэ засталася добрая памяць пасьля леташніх удалых выступаў. Поўная зала ў часе канцэрту была доказам гэтага.

Прыйшлі на канцэрт хіба што ўсе беларусы нашага лягеру. Здавалася, што з абліччаў іх усіх б'е гонар: "Хоць рэдка, затое надзэўна добра. Зпасярод частых украінскіх і расейскіх розных канцэртаў —— нарэшце наш."

Ці патрэба пералічваць паасобныя нумары праграмы? Ці ня хопіць назваць толькі выканаўцаў? Ці ня хопіць назваць такіх як: кампазытар М. Куліковіч, салістка беларускай опэры Н. Куліковіч, вядомы наш квінтэт, сьпявачка Л. Янушкевіч з яе фальклёрным рэпэртуарам, балерыны Верачка "Белая" і Верачка "Чорная" з іх партнёрам Кара-Сокал, канфэрансье і дэкляматар Жылінскага? Ды гэта,бадай што, усе яны. Бо-ж іх так мала, а так шмат далі яны нам у гэты вечар.

Думаю, што кожнаму беларусу ў Шляйсгайме /такіх, што не былі на канцэрце,хіба няма/ пры ўспаміне гэтых прозьвішч адразу насоўваюцца паасобныя вобразы канцэрту і ў вушох гучаць воплескі.

Ці дзіва, што некаторых артыстаў патройчы выклікалі на сцэну? Не! Таму, хто мае беларускае сэрца, цяжка з аб'ектывізмам крытыка ацаніць сьпеў ці танец, цяжка аналізаваць выкананьне. Беларускі глядач ацэньвае і перажывае гэта як цпласьць сваёю душою. Тут ён успрыймае усё сваё, бачыць сваіх дзяўчат, чуе свой сьпеў, чуе гучныя тоны вясельнае музыкі і... далёкі пах сенажацяў.

Нашыя народныя паказы былі ўдала пераплецены салёвым канцэртным сьпевам, цыганскім і каўкаскім танцам, а таксама дэклямацыяй і ўкраінскім гапаком. Гэты апошні выклікаў асабліва гучныя "брава" украінцаў, якія складалі вялікую частку гледачоў.

Букеты красак уручаныя артыстам ад беларускага грамадзтва, Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня і ўкраінскіх студэнтаў былі выразам удзячнасьці за прыемна праведзены час і глыбокія ўражаньні з канцэрту. Словы падзякі паасобных прадстаўнікоў дапоўнілі мову красак. Словы украінскай студэнткі, выражаючыя духовую сувязь між украінскім і беларускім народамі, былі шматразова перарываны прысутнымі ўкраінцамі і беларусамі.

Мы, беларускія студэнты лягеру Шляйсгайм, шчыра рады бачыць тут нашых артыстаў часьцей.

Студэнт.

---ooo---

## Са студэнцкага жыцьця.

### ПОСЬПЕХІ БЕЛАРУСКІХ АРТЫСТАЎ.

На заканчэньне зьезду студэнцтва амэрыканскае зоны, які адбыўся ад 5-га да 10-га жніўня, у нядзелю 10-га 8. г. г. у Зээсгаупт, каля Штарнбэргскага возера, быў наладжаны канцэртны выступ, у якім апрача немцаў узялі ўдзел мастакі іншых нацыянальнасьцяў: беларусы, украінцы і мадзяры. Канцэртная частка вечару пачалася ў 20 гадз. нямецкім выступам. Нямецкімі салістамі былі выкананы лепшыя творы нямецкае і сусьветнае музыкі, аднак ўзровень іх выкананьня быў нізкім. Спадзяючыся, што выступы чужынцаў будуць на вышэйшым мастацкім узроўні і жадаючы не скампрамітавацца перад гэтымі-ж чужынцамі нямецкае кіраўніцтва вечару стала рабіць ім розныя перашкоды, імкнучыся як найболыш зьнізіць эфэкт выступаў. Тут яшчэ раз праявілася нямецкая "звышчалавечасьць": нетадеранцыя і злая волі ў адносінах да чужынцаў. Пасьля доўгіх перагавораў удалося перамагчы гэтыя перашкоды і наладзіць канцэртную частку так, як нам гэта было патрэбна.

Нашаю артыстычнаю групаю,адумыслова на гэты вечар запрошанаю, былі паказаны творы нашай народнай і мастацкай музыкі і народныя абразавыя сцэны.Салістка беларускай опэры Н.Кулікович прасьпявала арыю з беларускай опэры "Браніслава" /лібрэтта У.Дубоўкі,музыка камп.М.Равенскага/.Арыя,уключаючая сабой мамэнт,калі Браніславу жыўцом замуроўваюць,яе трагэдыя,адбітая кампазытарам,мастацкасьць выкананьня былі вельмі добра зразуметы і ацэнены слухачамі,якія ўзнагародзілі салістку гучнымі воплескамі.Пасьля жаночым квінтэтам ... у складзе сьпявачак: Н. Кулікрвіч, В. Філіповіч, І. Жылінскай, Б. Ганчарэвіч і Л. Янушкевіч былі прасьпяваны некалькі народных песьняў.

Балетніцамі В. Філіповіч, В. Андра і балетмайстрам Кара-Сокал была паказана маленькая сцэнка з цыганскага жыцьця - цыганская рапсодыя. Тэхніка выкананьня і сюжэт сцэнкі выклікалі буру доўгатрывалых,

нямоўкнучых воплескаў, якія ператварыліся ў крыкі "біс!". Сцэна была паўторана.

На заканчэньне нашай праграмы была паказана беларуская абрадавая сцэна "Шчур" з удзелам усіх сяброў артыстычнае групы.

Выступ Беларускага Тэатру Эстрады пакінуў па сабе, як у немцаў, так і ў прысутных чужынцаў, вялікае і як найлепшае ўражаньне.

Наступна выступілі украінскія бандурысты. Добра выпала украінская музыка і належна была ацэнена слухачамі шматлікімі воплескамі.

Мадзяры далі некалькі кабарэтных намяроў, якія былі ўспрыняты прысутнымі па рознаму: і воплескамі, і сьмехам.

Беларускім Студэнцкім Згуртаваньнем быў атрыманы ад Інтэрнацыянальнай Студэнцкай Асацыяцыі ў Мюнхэне ліст наступнага зьместу:

"Да Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня

Мюнхэн, Піксісштр.5/II

Дазвольце мне ад імя Інтэрнацыянальнай Студэнцкай Асацыяцыі выказаць Вам маю сардэчную падзяку за выступ Вашых артыстаў на вечары ў Зээсгаўпт. Паказанае Вамі на гэтым вечары перавысіла ўсё іншае і прынесла Вам посьпех. Пасьля выступу з боку шматлікіх прадстаўнікоў студэнцтва мне давялося выслухаць словы захапленьня Вашай праграмай і яе выканаўцамі.

З сяброўскім прывітаньнем



канд. арх. Б.Шільс
Прадстаўнік І.С.А."

Гэты ліст зьяўляецца найлепшаю ацэнкаю нашай артыстычнай групы.

Б.С.З. у Мюнхэне з свайго боку шчыра дзякуе Беларускаму Тэатру Эстрады і яго кіраўніку кампазытару М.Куліковічу за так высокую рэпрэзэнтацыю ды папулярызацыю беларускае нацыянальнае культуры на міжнародным грунце.

Ня гледзячы на цяжкае матарыяльнае становішча ў якім сяньня знайходзіцца трупа, кіраўніцтва яе, за згодай усіх удзельнікаў, ня толькі адмовілася ад узнагароды за выступ, але значную частку коштаў падарожжа прыняло на сябе, чым падкрэсьліла грамадзка-нацыянальны характар свае працы.

Ар.

---ооо---

ЮБІЛЕЙ УКРАІНСКАЕ ГАСПАДАРЧАЕ АКАДЭМІІ - УКРАІНСКАГА ТЭХНІЧНА-ГАСПАДАРЧАГА ІНСТЫТУТУ.

У дні 15,16 і 17 травеня 1947 г. Украінскі Тэхнічна-Гаспадарчы Інстытут у Рэгенсбурзе абходзіў вялікае сьвята - 25-ыя ўгодкі свайго існаваньня.

Існаваньне Украінскай Гаспадарчай Акадэміі ў Чэхаславаччыне - Украінскага Тэхнічна-Гаспадарчага Інстытуту ў Нямеччыне запісана залатымі літарамі ў гісторыі украінскае эміграцыі і наагул у гісторыі украінскага народу. Гэта адзіны прыклад у гісторыі, дзе народ на чужыне змог заладзіць і ўтрымаць праз доўгія гады, бо ад 1922г., вышэйшую навуковую установу.

У.Г.А. - У.Т.Г.І. выпусьціў у сьвет сотні маладых піянераў культуры, сотні лепшых патрыётаў свае радзімы. Добрая арганізаванасьць, захаваньне народнай традыцыі, утрыманьне школы на належным ідэйным грунце і сталы кантакт з народам сваім, дазволіць напэўна У.Т.Г.У. доўгія годы весьці, распачатую ў 1922г., працу.

Сярод шматлікіх гасьцей, якія зашчыцілі сваёй прысутнасьцю сьвяточную Акадэмію, былі запрошаныя беларускія студэнты з Рэгенсбургу. Адзін

з ІК І.К. выступіў з прывітаньнем да Яго Магніфіцэнцыі Спадара Рэктара, шаноўнага Прэзыдыюм, сябровак і сяброў студэнтаў. У кароткіх словах кал. І.К. падкрэсьліў заслугу У.Г.А. для шматлікіх беларусаў-тулачоў, якія пазбаўлены магчымасьці вучыцца ў родным краі, знайшлі падтрымку з боку кіраўніцтва заслужанай Украінскай Школы і канчалі яе ў Чэхаславаччыне.

Сяньня, у Нямеччыне, зноў частка нашых студэнтаў паступіла ў гэтую сапраўдную Alma Mater, сустракаючы з боку кіраўніцтва Інстытуту прыязнасьць і поўнае зразуменьне. У апошніх словах наш прамоўца пажадаў Яго Магніфіцэнцыі Спадару Рэктару, спадаром Прафэсаром і студэнтам У.Т.Г.І. вытрывалай і плённай працы, а так-жа знайсьці ў як найбліжэйшай будучыні мейсца сваё працы ў Вольнай і Незалежнай Украіне.

М.Т.

---ооо---

## ПАСЬЛЯ ЗАЧЫНЕНЬНЯ ЎНІВЭРСЫТЭТУ У.Н.Р.Р.А.

Фактычна жадаў-бы крануць тут пытаньне: дзе студ'юць сяньня сябры мюнхэнскага Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня, студэнты былога Унівэрсытэту УНРРА ў Мюнхэне ?

Хіба кожны, хто цікавіцца праблемамі вышэйшых школаў, а ў прыватнасьці нашымі беларускімі студэнцкімі справамі, памятае аб адкрыцьці шмат абяцаючага Унівэрсытэту УНРРА ў Мюнхэне, на якім прысутнічалі знатныя прадстаўнікі Вайсковых Уладаў Амэрыканскае Зоны, Галоўнае Кватэры УНРРА і іншых арганізацыяў. Памятаем, калі мы з надзеяй у вялікую будучыню сваё новае Альма Матэр узяліся разам з прафэсарскім пэрсаналам за працу, і на працягу кароткага часу заснавалі Ўнівэрсытэт, які сваім узроўнем адпавядаў іншым вышэйшым школам.

Можа ня ўсе аднак ведаюць аб трагічным канцы Ўнівэрсытэту УНРРА. Пачынаў сваё існаваньне ён гучна і ўрачыста, канчаў спакайней. І толькі абразьлівы шыльд "Ліквідацыйная пляцоўка Ўнівэрсытэту УНРРА" нагадваў гэтага лета аб калісь квітучым тут жыцьці.

Ні ў гэтым аднак справа. Гісторыі ўнівэрсытэту можна было-б прысьвяціць спэцыяльны артыкул.

Закрыцьцё Ўнівэрсытэту УНРРА найбольш закранула беларускую студэнцкую моладзь, а то праз наступных прычынаў. Колькасна мы сталі са сваімі 52-ма студэнтамі на 6-тым мейсцы пасьля ўкраінцаў, літоўцаў, расейцаў, палякоў, жыдоў і латышоў. Становішча наша аднак было тым трэнным у мамэнт зачыненьня Ўнівэрсытэту УНРРА, што больш як 50% беларускіх студэнтаў у Нямеччыне студыявала іменна на гэтым унівэрсытэце, тады, калі ў іншых нацыянальнасьцяў асноўная маса студэнтаў была разьмешчана на нямецкіх вышэйшых установах /напр. з агульнай колькасьці 2000 толькі 500 украінскіх студэнтаў студыявала на Ўнівэрсытэце УНРРА/.

Нашым беларускім студэнтам сапраўды пагражала катастрофа —— апынуцца паза ўнівэрсытэтам, бо паступіць сяньня на нямецкі ўнівэрсытэт ці палітэхніку ня так лёгка.

Аднак, дзякуючы стараньням перадусім Ц.Б.С.А. у Марбургу, мясцовага Б.С.З. у Мюнхэне, а галоўнае заратнасьці самых студэнтаў, удалося амаль поўнасьцю разьмясьціць былых студэнтаў Унівэрсытэту УНРРА па існуючых вышэйшых навучальных установах як ніжэй:

| | |
|---|---|
| Унівэрсытэт Марбург . . . . . . . . . . . . . | I2 |
| " Мюнхэн . . . . . . . . . . . . . | 4 |
| Палітэхніка Мюнхэн . . . . . . . . . . . . . | 4 |
| " Карльсругэ . . . . . . . . . . . . | 3 |
| Унівэрсытэт Фрайбург . . . . . . . . . . . . | 3 |
| Украінскі Унівэрсытэт Мюнхэн . . . . . . . . . | II |
| Украінскі Тэхнічна-Гаспадарчы Інстытут у Рэгенсбургу . . . . | 6 |